РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

Кошт 200 рублёў

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №17 (126), 27 КРАСАВІКА 1994

СЁННЯ:



Пры гуках гімнаў каранаваныя асобы і прэзідэнты ўстаюць на смірна...

Стар.6





## ЯНЫ ПАВІННЫ БЫЛІ Б ЖЫЦЬ...

Мы з Ганнай Георгіеўнай Гарчаковай, псіхолагам Дзіцячага гематалагічнага цэнтра, разглядаем фотакарткі. Вось ляжыць з чорнымі (на самой справе яны чырвоныя ад крыві, але чорна-белае фота гэтага не паказвае) тампонамі Андрэй М., шнур ад кардыяманітора абвівае яго, унутрывенны катэтар, замацаваны белым бінтом, чорным жа крыжам выдзяляецца на белым. У вачах Андрэя - засяроджанасць і нейкі недзіцячы, зусім нетутэйшы смутак, нібыта душа ведае, што жыць яму засталося месяц ці два... Вось трынаццацігадовая Марына Ш. - валасы ледзь-ледзь адраслі пасля магутнай хіміятэрапіі, з-пад паласатай майкі таксама выглядае краёчак павязкі - толькі, бадай, спецыялісты могуць сказаць, што гэта - замацаваны пластырам падключычны катэтар, з якім яна жыве доўгія месяцы... Хаця, што я кажу - ужо не жыве. Не дапамаглі месяцы лячэння і ўсіх нашых намаганняў... Ганны Георгіеўны, вядома, і маіх, "медбрата", у апошнюю чаргу - пасля намаганняў нашых урачоў - Галіны Львоўны Качан, Аляксандра Мікалаевіча Дакучаева, многіх іншых, хто змагаўся за жыццё і гэтых, і іншых дзяцей зацята і самааддана. Да апошняга.

(Заканчэнне на стар.4).



ПАЛІТЫЧНЫ БАРОМЕТР

# ПРАДАЕЦЦА КРАІНА: 10 МЛН. НАСЕЛЬНІЦТВА, ВЯЛІКІ ЭКАНАМІЧНЫ ПАТЭНЦЫЯЛ, ЗРУЧНАЕ ГЕАСТАНОВІШЧА. ТАННА.

*Далібог, лепш бы нашыя ўрадавыя чыноўнікі разаслалі гэткую аб'яву па найбуйнейшых газетах свету — глядзіш, нехта з багаценькіх і спакусіўся б! Але, на жаль, некаторых таварышаў правілам гандлю ў партшколах, мабыць, не навучылі.*

Падабаецца нам тое ці не падабаецца, жадаем мы таго ці не, але рухавіком прагрэсу заўсёды была і будзе ўласнасць. Адчуванне ўласніка і ўласніцтва — МАЁ — галоўны, а магчыма, і адзіны стымул у пошуку найбольш выгадных і перспектыўных рашэнняў. Калі ў вас у хаце ёсць, да прыкладу, тэлевізар, вы наўрад ці пацягнеце яго ў бліжэйшы пераход, каб падарыць жабраку. Наадварот, пры магчымасці ўзаб'ецеся на другі апарат, каб паставіць яго жонцы на кухні і атрымаць ад гэтай аперацыі выгаду — своечасова прыгатаваную вячэру без папраўкі на трансляцыю «Санта-Барбары». Калі вы дырэктар піўзавода і адначасова трымальнік нейкай долі яго акцый, вы будзеце варыць піва «Старажытнае», «Бурштын Беларусі», «Нямігу», «Вязынскае» — і хай скрыгоча ад зайздрасці знакаміты «Хольстэн», які (коштам па 15000) вы на корані задавілі на сваім рынку.

Але калі вы знявечаны рынкам сацыялістычным, калі вам, дырэктару «саюзнага» завода, штотыднёва і штодзённа дасылаліся тэлеграмы з Масквы і туды ж адсылаўся ваш прыбытак, ваша фантазія загублена назаўсёды, і вы не здолееце ўбачыць СВАІМ нешта большае за кватэру, машыну і загарадны катэдж. Вы не зразумееце, што бывае СВОЙ завод, СВАЯ крама, СВАЯ краіна і ўрэшце — СВАЯ выгада.

І працуюць заводы, якія гоняць непатрэбную прадукцыю, заключаюцца шматмільённыя кантракты, вынікам якіх становяцца нікому не патрэбныя аправы для акуляраў, прымаюцца дзяржаўныя рашэнні, ад якіх дрыжыкі па целе бегаюць.

«Мы не адмовімся ад свайго суверэнітэту», — сказаў прэм'ер Беларусі Вячаслаў Кебіч і... падпісаў дагавор, які ліквідуе эканамічную самастойнасць Беларусі: Расія «спускае» нам бюджэт, Расія вызначае крэдытна-фінансавую палітыку, Расіі належаць пасівы і актывы нашага Нацбанка, а сам Нацыянальны (слова ж якое гордае — да гучання яго хаця б прыслухаліся!) банк ператвараецца ў філіял Расійскага Цэнтрабанка.

«Мы не адмовімся ад свайго суверэнітэту» — але пасівы-актывы і ёсць наша беларуская ўласнасць, якая падаравана суседзы.

«Мы не адмовімся ад свайго суверэнітэту» — толькі дзеля гэтага зменім Канстытуцыю, каб там суверэнітэту гэтага было паменей.

«Мы не адмовімся ад свайго суверэнітэту» — але на пасяджэнні Прэзідыума ВС, паводле інфармацыі народнага дэпутата Уладзіміра Заблоцкага, прэм'ер канкрэтна называў межы нашай незалежнасці: «Мы будзем як Татарстан у складзе Расійскай Федэрацыі».

«Мы не адмовімся ад свайго суверэнітэту» — толькі памяняем зайцоў на расійскія рублі, якія нам дадуць пад выглядам беспрацэнтнай і бестэрміновай шматмільярднай пазыкі, і калі ў будучым нехта сапраўды расліычыцца па гэтай пазыцы, якая імгненна абернецца шматмільярдным дзяржаўным доўгам.

А якая пры ўсім пры гэтым дэманстрацыя самаўпэўненасці! Канстытуцыю парушылі? — Бог з ёй, з Канстытуцыяй, падгонім пад дагавор, паправім, што трэба. Дэпутаты не згодзяцца? — Бог з імі, з дэпутатамі, рэферэндум наладзім. Дарадца (усяго толькі дарадца!) прэм'ера Мікалай Скарынін нават дату магчымую публічна абвяшчае — разам з выбарамі беларускага генерал-губернатара. Нават у Старшыні парламента спадара Грыба ад такой самаўпэўненасці раздражненне з'явілася — ён не лічыць магчымым змены ў Канстытуцыі і не бачыць патрэбы ў рэферэндуме.

Лагічна ўсё ж запытацца — дзеля чаго гэта ўсё? Навошта знішчаць адноленую ўрэшце беларускую дзяржаву?

Называюцца, па сутнасці, дзве пазіцыі, дзе МЫ АТРЫМАЕМ ВЫГАДУ: 1) танная нафта (кошт яе знізіцца на 40 долараў за тону), 2) адсутнасць межаў і мытняў, што дазволіць нашым трактарам працаваць на расійскіх палях.

Але: 1) навошта НЕ НАШЫМ прадпрыемствам (актывы-пасівы, бюджэты-крэдыты, заводы-саўгасы РАСІЙСКІЯ) танная нафта? 2) Чаго нам хваляваецца за продаж НЕ НАШЫХ трактароў?

Няўжо адзіны спосаб выжыць — пусціць сабе кулю ў скронь?!

Дазволь, чытач, прывесці лічбы з «Общей газеты», якую выдаюць у Маскве. Гэта меркаванні экспертаў абодвух бакоў пра фінансавыя страты і набыткі Расіі пры аб'яднанні грашовых сістэм:

— расійскія пастаўшчыкі энерганосьбітаў і бюджэт Расіі згубяць у 1994 годзе прыбыткі на суму 1,4 млрд. долараў (у выпадку прымянення з Беларуссю ўнутраных расійскіх цэнаў);

— аднак дзякуючы зніжэнню цэн на энерганосьбіты, Расія можа атрымаць выйгрыш праз пастаўку больш таннай прадукцыі з Беларусі ў 400 млрд. рублёў;

— агульныя выдаткі, якія нясе Беларусь за ўтрыманне на сваёй тэрыторыі расійскіх войскаў стратэгічнага прызначэння — каля 1,9 млрд. долараў на год;

— стварэнне Расіяй уласнай групіроўкі супрацьпаветранай абароны на заходнім накірунку замест аб'ектаў, якія знаходзяцца на Беларусі, запатрабавала б болей за 10 трлн.рублёў;

— стварэнне граніцы з Беларуссю на працягу 1239 км каштавала б Расіі не менш 600 млрд. рублёў плюс 400 млрд. на стварэнне пунктаў мытнага кантролю;

— будаўніцтва на тэрыторыі Расіі аб'ектаў, аналагічных вузлу сістэмы папярэджання аб ракетным нападзе у Баранавічах і цэнтру сувязі ВМФ у Вілейцы, запатрабуе не менш 4 трлн.рублёў.

Падвядзем рысу: Расія страчвае 1,4 млрд. долараў, але эканоміць не менш 10 млрд.долараў. Беларусь, адмаўляючыся ад платы за транзіт і за ўтрыманне расійскіх вайсковых аб'ектаў (па ацэнках незалежных экспертаў) адначасова адмаўляецца не менш чым ад 3 млрд. долараў штогод.

Варта, мне здаецца, прыплюсаваць сюды і «танную нафту», якая, бачце, на 40 «баксаў» становіцца таннейшай і тым самым... набліжаецца, урэшце, да цаны на сусветным рынку!

Дык каму трэба аб'яднанне грашовых сістэм? Чаму Беларусь павінна змагацца за нейкія энерганосьбіты для прадпрыемстваў, якія ўжо не будуць належаць самой Беларусі? Чаму мы павінны аддаваць адзінае, што ў нас ёсць — дзяржаву, — не атрымліваючы нічога ўзамен? (Ды і што можна парачаць па каштоўнасці з УЛАСНАЙ ДЗЯРЖАВАЙ?)

Як, урэшце, адшукаць унутраную логіку крокаў нашага ўрада?

Апазіцыя БНФ знайшла гэтую логіку ў свядомай здрадзе Беларусі, падаўшы запыт Генеральнаму пракурору на прадмет законнасці падпісання слаўнага Дагавора. Зянон Пазьняк, напрыклад, неадноўчы падкрэсліваў, што знішчэнне Беларусі — свядомая мэта карумпаванага чыноўніцтва, бо тым самым будзе знішчаны суб'ект права, і паважанаму кіруючаму спадарству больш не будзе перад кім і за што адказваць.

Я не хачу і не буду рабіць падобных катэгарычных высноў, але, аналізуючы дзейнасць вышэйшага эшалона ўлады Беларусі на працягу апошніх гадоў, пераконваюся ў галоўным — у нашай краіны няма гаспадара. Кабінет міністраў не адчувае ні адказнасці перад Беларуссю, ні хвалявання за яе лёс. Ён не бачыць самакаштоўнасці незалежнай Беларусі. Ён не лічыць, урэшце, гэтую зямлю сваёй.

А таму і падпісвае ўсялякія дагаворы, нават не прадаючы, а аддаючы на нашых вачах галоўны набытак беларусаў — іхнюю дзяржаву...

**Максім ГІЛЕЎСКІ,**
**«нацыянал-радыкал».**

## У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ

- 25 красавіка на гастролі ў Іспанію ад'ехаў асноўны састаў хору і аркестра Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь. Першыя выступленні беларускіх артыстаў, якія распачаліся 6 красавіка ў тэатры «Алімпія» ў Валенсіі, прайшлі з вялікім поспехам.
- 25 красавіка ў Беларускай акадэміі музыкі вядомы педагог з Санкт-Пецярбурга Тацяна Краўчанка правяла майстар-клас.
- 25 красавіка з Цвяры пасля ўдзелу ў Міжнародным фестывалі лялечных тэатраў вярнуліся дамоў артысты Дзяржаўнага тэатра лялек Беларусі. Там яны паказалі два спектаклі «Папялушка» і «Цар Ірад».
- 26 красавіка ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі прайшоў канцэрт-рэквіем «Ахвярам чарнобыльскай катастрофы» з удзелам Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі, Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы імя Р.Шырмы, салістаў А.Тузлукова (тэнар), Т.Цівуновай (сапрана), С.Таўстова (бас) з Санкт-Пецярбурга, І.Алоўнікава (фартэпіяна).
- 27 красавіка на сцэне Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі пакажа спектакль «Мільгаценне месяца» балетная трупа з Францыі «Plaisir d'offrir» пад кіраўніцтвам Мішэля Келеменіса.
- 27 красавіка ў мінскім Палацы культуры аўтазавода з канцэртнай праграмай выступіць фальклорна-харэаграфічны ансамбль «Харошкі».
- 27 красавіка ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адкрыецца выстава жывапісца Аляксандра Ксяндзова.
- 28 красавіка ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі адбудзецца справаздачны канцэрт мінскіх дзіцячых музычных школ.
- 28 красавіка ў памяшканні Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Рэспубліканскі фонд міласэрнасці і здароўя адзначыць Дзень міласэрнасці. Адбудзецца ўрачысты канцэрт.
- 28 красавіка ў Зале камернай музыкі Белдзяржфілармоніі (пр.Ф.Скарыны,44-а) адбудзецца аўтарскі канцэрт В.Войціка, у якім выступяць Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі, ансамбль «Класік-авангард».
- 30 красавіка ў мінскім Палацы культуры прафсаюзаў заканчваецца рэтраспектыўны паказ фільмаў вядомага нямецкага рэжысёра Фазбіндэра. На працягу амаль двух тыдняў беларускія аматары кіно мелі магчымасць убачыць такія творы, як «У годзе трынаццаць месяцаў», «Кітайская рулетка», «Горкія слёзы Перці фон Кант» і іншыя. У апошні дзень рэтраспектывы будзе дэманстравацца стужка «Я хачу толькі, каб вы мяне кахалі».
- 30 красавіка ў Белдзяржфілармоніі — канцэрт харавой музыкі. На сцэне Вялікай залы выступяць маладзёжны народны хор з Віцебска (мастацкі кіраўнік В.Раўза), камерны жаночы хор «Пунсовыя ветразі» (мастацкі кіраўнік І.Лой).

## СПАДЧЫННАЙ ГАНАРЫЦЦА

Заўтра, 28 красавіка, а 17 гадзіне на філфаку БДУ (вул. Маркса, 31) адбудзецца Велікодны фестываль фальклорных калектываў. Яго ладзяць Асацыяцыя фалькларыстаў, Міністэрства культуры і друку, аддзел моладзі гарвыканкама і іншыя аўтарытэтныя ўстановы. «Вялікдзень-94» пакажа такія вядомыя фальклорныя калектывы, як «Агмень», «Неруш», «Свята», «Крэсіва», «Тутэйшая шляхта» і іншыя. Радасна, што нашай моладзі блізкія традыцыі продкаў, якія стварылі самабытныя танцы і песні, якімі можа ганарыцца кожны народ.

**Я.Ф.**

## ВЫСТАВА НА ЎГОДКІ ПАЎСТАННЯ




15 красавіка ў Дзяржаўным мастацкім музеі адкрылася «выстава ў экспазіцыі», прысвечаная 200-м угодкам вызвольнага паўстання 1794 года за аднаўленне дзяржаўнасці Вялікага княства Літоўскага. Першых яе наведнікаў, сярод якіх былі і госці з Польшчы, павіталі дырэктар музея Ю.Карачун, намеснік міністра культуры і друку У.Рылатка, старшыня Нацыянальнага камітэта па святкаванні ўгодкаў паўстання М.Купава ды іншыя дзеячы беларускай культуры.

Выстава невялікая: шэсць партрэтаў беларускіх магнатаў таго часу і апошняга Вялікага князя С.-А. Панятоўскага, напісаных тутэйшымі мастакамі (І.-К.Хескі, А.-Р.Лісеўская ды іншыя). Сціплы маштаб выставы, як падкрэсліў М.Купава, красамоўна сведчыць сам па сабе, чаго каштавала нашай культуры страта дзяржаўнай незалежнасці: ледзь не ўсе лепшыя творы выяўленчага і ўжытковага мастацтва былі вывезены па-за межы Беларусі. Тым не менш гэтая выстава павінна стаць яшчэ адным арыенціpам на шляху нацыянальнага адраджэння.

Сапраўдным аздабленнем вернісажу была музыка М.-К. Агінскага ды іншых тагачасных кампазітараў, якую выконвау струнны квартэт «Уваскрашэнне» з Беларускага універсітэта культуры.

Наш кар.
**Фота Г.ЖЫНКОВА.**

У ТВОРЧЫХ САЮЗАХ

# PRO I CONTRA

*27 красавіка адкрываецца нечарговы з'езд пісьменнікаў Беларусі. Ён мае вырашаць надзённыя пытанні выжывання творчай арганізацыі ў рэаліях рынкавых дачыненняў. Наш карэспандэнт сустрэлася са старшынёй Саюза пісьменнікаў Васілём ЗУЁНКАМ, які і пачаў гутарку словамі:*

— Якасныя і арганізацыйныя перамены даўно наспелі. Трэба неяк прыладкоўвацца ў нашай працы — і творчай, і арганізацыйнай, і, так бы мовіць, культурна-масавай да тых рэалій, у якіх мы апынуліся. Рэаліі гэтыя не радасныя для нас.

**— Васіль Васілевіч, як Вы канкрэтна ўяўляеце «тактыку прыладкоўвання»?**

— Канкрэтна? Я бачу два глабальныя накірункі.

Першы — прапаганда нашай літаратуры, нашага слова на ніве адраджэння памяці і гісторыі беларускай. Вакол падобнай прапаганды трэба сканцэнтраваць асноўную творчую энергію. І тут на першы план, як мне ўяўляецца, павінен выступіць наш Дом літаратара. Ён мусіць стаць не проста клубнай установай, а цэнтрам творчай энергіі, у якім будуць выпрацоўвацца новыя спадзяванні, падыходы, погляды на будучае, дзе больш смела і актыўна, з прыцягненнем самых лепшых мастакоў слова, будзе весціся работа. Павінны актыўна дзейнічаць усе секцыі, аб'яднанні, асацыяцыі. Тут непачаты край работы. Бо нашы сённяшнія формы існавання — архаічныя. Каму патрэбныя кансультанты? Каго ім кансультаваць? Наіўна думаць, што служба кансультацый не аджыла сама па сабе, як форма. Усе намаганні штатных супрацоўнікаў СП трэба скіраваць на канкрэтную працу ў Доме літаратара. Трэба прыцягваць як мага больш маладых, праводзіць прэзентацыі першых кніг, абмяркоўваць рукапісы, каб моладзь бачыла, што іх тут чакаюць і сустракаюць з прыязнасцю і надзеяй. Тады маладзёжныя аб'яднанні не будуць разрываць нашых сіл, а наадварот, у шматграннасці формаў сцвердзіцца адзіная ідэя, адзіны накірунак на адраджэнне, на рост майстэрства ўсіх — і маладых, і старэйшых.

**— А другі накірунак?**

— Цяперашнія ўмовы патрабуюць вырашэння сацыяльна-бытавых праблем. Літфонд, шчыра кажучы, цяпер беспасажны, сядзіць на безграшоўі і корміцца са сродкаў, якія нажываюцца за кошт эксплуатацыі будынка Дома літаратара. У яго, практычна, не засталося іншых крыніц, каб напоўніць сваю казну. Наіўна чакаць, што прыйдзе нейкі бізнесмен і разгорне дзейнасць, каб забяспечыць пісьменнікаў, да таго ж усіх. Бізнесмен у першую чаргу, натуральна, думае пра свой капітал, гэта потым ён робіцца спонсарам і час ад часу дапамагае культуры. Таму Літфонд павінен знайсці ўласныя шляхі, каб трошкі папоўніць свае сродкі, каб хаця не «звузіць» тыя межы, у якіх пісьменнікі яшчэ існуюць. Трэба разумна, эканамічна разлічыць, як найлепш выкарыстаць нашы магчымасці. Некаторыя нашы захады, хаця і праведзеныя ў трошкі пажарным парадку, абнадзейваюць. Аб'яднаны дырэктарскія службы дома творчасці «Іслач» і прафілакторыя СТД. Дзейнічае агульны вузел кіраўніцтва. І ёсць ужо задума стварыць на базе «Іслачы» лячэбна-прафілактычна-санаторны комплекс, да якога падключыцца і літфондаўская паліклініка.

Такія два галоўныя накірункі, але, безумоўна, да іх далучацца пытанні выдання кніг, аплаты творчай працы, наогул ганарарная палітыка. Апошнім часам мы быццам бы пачалі выбірацца з тупіка амаль бясплатнага выдання кніг. З'явілася пастанова Саўміна, якая «прывязала» ґанарарныя стаўкі да мінімальнай зарплаты.

**— Ці прадбачыце Вы канструктыўныя перамены ў арганізацыйным плане?**

— Вырашаць гэтае пытанне — справа з'езду. Але я, калі буду выступаць, канешне, выкажу сваю думку. У нас ёсць Статут, у які трэба ўнесці нейкія дапаўненні, што ўжо наспелі. Абранае з'ездам кіраўніцтва будзе працаваць у адпаведнасці са Статутам. Старшыня будзе кіраваць усім «комплексам», а ўжо намеснікі ягоныя, як мне ўяўляецца, павінны дзейнічаць у канкрэтных накірунках. Адзін з намеснікаў будзе, назавём умоўна, старшынёй праўлення Літфонду, а другі — старшынёй праўлення Дома літаратара. Кожны будзе адказваць за канкрэтныя вялікія накірункі і справы. Той, хто будзе працаваць у Доме літаратара, будзе кіраваць усёй калятворчай справай: абмеркаваннем кніжак, дзейнасцю секцый і арганізацый.

Зыходзячы з палажэнняў Статута, будзе ісці кампанія выбараў кіраўніцтва Саюза, кіраўніцтва Літфонду, справаздачы. Папярэдні наш агульны сход выдзеліў Літфонд у самастойную структуру. Цяпер, праз год, большасць сяброў Саюза зразумела, што тое рашэнне было трошкі паспешным. Нядаўна кіраўніцтва Літфонду праводзіла «рэферэндум», які схіліўся да таго, што гэтай арганізацыі зноў трэба вярнуцца пад эгіду СП. Трэба сканцэнтраваць усе намаганні ў адзін кулак. Саюз пісьменнікаў — вядомая арганізацыя, у яе вельмі прыстойны імідж.

А Літфонд за межамі пісьменніцкай грамадскасці амаль невядомы. Тыя ж кватэры гарсавет заўсёды выдзяляў менавіта Саюзу пісьменнікаў, а не Літфонду...

Патрэбны, пэўна, яшчэ адзін намеснік старшыні Саюза. Гэтую пасаду мы раней называлі «сакратар па аргпытаннях». Я ўжо казаў, што такі анахранізм, як служба кансультантаў, даўно аджыў сваё. Кансультанты заўсёды прызначаліся па загадзе, яны былі быццам бы пастаянныя і не мусілі рабіць ніякіх справаздач. Мне здаецца, і да гэтых (безумоўна, відазмененых!) пасадаў павінен быць конкурсны падыход. Кандыдатуры супрацоўнікаў Дома літаратара мусяць зацвярджацца Радай на канкрэтны, скажам, чатырохгадовы тэрмін, праз які іх будзе чакаць абавязковая справаздача перад пісьменніцкай грамадскасцю.

Як бачыце, кіраўнічая структура Саюза як бы сціскаецца, утрасаецца і накіроўваецца на канкрэтны абсяг.

**— Якія Вашы пажаданні з'езду?**

— Я хачу, каб з'езд прайшоў без танных страсцей, бо з імі мы нічога не вырашым. Спадзяюся, што будзе многа разумных выступленняў, прапаноў, крытыкі, падказак, новых ідэй. З'езд павінен грунтоўна падысці да нашых праблем, бо толькі мы самі — гаспадары свайго лёсу. І калі мы будзем трымацца разам, то здолеем вырашыць праблемы, якія паўсталі. А калі разбяжымся на невялічкія «атрады», то толькі зробім шкоду агульнай справе. Пакуль не вырашана галоўная задача, пакуль не адрадзілася нацыянальная ідэя, мы проста не маем права на распыленне сіл, на ўнутраную варожасць. Хай сабе будуць спрэчкі, але хай яны будуць канструктыўныя, неантаганістычныя. Я спадзяюся, што адбудзецца грунтоўная, зацікаўленая гаворка, якая ўрэшце дапаможа кожнаму з творцаў здзейсніць тое, што яму талентам наканавана, на карысць агульнай беларускай справы.

■

За «кулісамі» Дома літаратара я сустрэла некалькі калег па творчым саюзе і амаль мімаволі задала кожнаму практычна адно і тое ж пытанне: «Як Вы лічыце, ці ў стане з'езд, які мае адбыцца, радыкальна змяніць штосьці ў жыцці Саюза пісьменнікаў?» Адказы я пачула розныя, але ў кантэкст пэўнай выбаркі яны ўкладваюцца.

Паэт Мікола Мятліцкі лічыць, што падчас з'езду пойдзе даволі сур'ёзная гаворка не толькі пра самую літаратуру, але і пра выжыванне пісьменнікаў. Мікола працуе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Перасцярога пра тое, што мы, магчыма, жывём у апошні год, калі яшчэ выходзяць кнігі, гучыць сапраўды трывожна. «Ва ўсім свеце літаратура заўсёды знаходзілася на датацыі дзяржавы, і я думаю, што з'езд дапаможа звярнуць увагу на кнігавыданне тых, хто зараз «на фінансавых вяршынях», — падкрэсліў мой суразмоўца.

Драматург Алена Папова адназначна адказала на маё «правакацыйнае» пытанне: «Ці патрэбны ў сённяшніх умовах творчыя саюзы?» — «Канешне, патрэбныя. Зразумела, дваццацігадовыя могуць пачаць жыццё спачатку. А пяцідзесяці-, шасцідзесяцігадовыя? Хіба іх можна пакінуць? Пры ўсіх недахопах, навошта ж з вадой дзіцятка выплёскваць? У гэтым вялікім лесе СП ёсць і вялікія дрэвы. Ды й малыя трэба. І не нам, не нашаму пакаленню вырашаць, хто застанецца, а хто — не. Іншая справа, што пускаць у гэтыя шэрагі трэба найболыш адораных, бо малаталенавітыя людзі нясуць з сабой болей марнасці. Тое, што не запоўнена музай, запаўняецца страсцямі».

Паэт Леанід Галубовіч падыходзіць да з'езду з прафесійнай, тэлежурналісцкай мэтай: «Зраблю рэпартаж, спадзяюся, атрымаецца цікавая перадача».

А паэт Алесь Бадак шчыра прызнаўся, што не чакае ад з'езду абсалютна нічога новага. «А калі будзе ўсё па-старому, — дадаў ён, — то трэба зачыняць Саюз. Ды й чым ён можа займацца ў сённяшніх умовах? Вучыць маладых, як пісаць? Прабачце...»

Паэт Леанід Дранько-Майсюк таксама скептычна паставіўся да маючай адбыцца падзеі: «Баюся, што пасля гэтага з'езду такая арганізацыя навогуле перастане існаваць...» Я пацікавілася, ці адпавядае, на яго думку, хоць у чым-небудзь сённяшні стан пісьменніцкай арганізацыі рынкавым дачыненням, і пачула: «Калі заходзіш у Дом літаратара і бачыш усе гэтыя шыльдачкі на дзвярах, то мяркую, што адпавядае. А па сутнасці, мусіць...»

Выходзячы з будынка, распрададзенага без малатка, я думала, як сама адказала б на сваё ж пытанне. І не знайшла адказу. Так, між pro і contra, чакаю з'езду.

**Галіна БУЛЫКА.**

# «ВЕЛІКОДНАЕ МУЗЫЧНАЕ ПРЫНАШЭННЕ»

2 — 7 мая ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбудзецца міжнародны фестываль музыкі «Мінская вясна — 1994», прысвечаны гэтым разам Велікоднаму тыдню. Сярод удзельнікаў фестывалю — Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла, Маскоўскі камерны ансамбль салістаў, Народны хор Беларусі імя Г.Цітовіча, Дзяржаўны камерны хор, Дзяржаўны Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі, заслужаны артыст Украіны В.Буймістэр (барытон) ды іншыя выканаўцы. У праграме — пераважна духоўная музыка, у тым ліку — тры адрозных «Літургіі св.Іаана Залатавуста» (П.Чайкоўскага, С.Рахманінава і беларускага кампазітара А.Залётнева), велікодныя песнапенні беларускай царквы XVIII — XIX стст., «Усяночнае дбанне» С.Бельцюкова і г.д.

Як нам стала вядомым, сваё блаславенне фестывалю даслаў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт. А па дамоўленасці паміж Беларускім Экзархатам і Міністэрствам культуры і друку ў фае філармоніі будуць прымацца дабрачынныя ахвяраванні на аднаўленне адной з найвялікшых рэліквій нашай культуры — крыжа св.Ефрасінні Полацкай. Гэты знакаміты твор беларускага мастацтва знік падчас апошняй вайны і адшукаць яго пакуль што немагчыма. Будзем спадзявацца, што гэтую шчыліну ў падмурку нашай культуры здолее сцэментаваць копія славутага крыжа нябеснай апякункі Беларусі. Будзем таксама спадзявацца на далейшае паразуменне і супрацоўніцтва паміж установамі свецкай і рэлігійнай культуры.

**Ю.Б.**

# ДЫЯЛОГ

*Зянону Пазьняку прысвячаю з нагоды яго 50-годдзя*

*Дзынкалі сотні гучных званоў —*
*Дзень быў суботні, Ян Багаслоў.*
*М.Цвятаева.*

**— А чаму — Ян? У арыгінале ж Іаан.**

— Чаму Ян? Давайце разважаць разам. Навукоўцы сцвярджаюць, што імя Іаан найстаражытнейшае, яўрэйскага паходжання. Але як утвараліся імёны? Мільёны гадоў таму на зямлі, дзе мы цяпер жывём, было племя. Быў сярод супляменнікаў Правадыр. Не было яшчэ мовы, не было ў Правадыра імя. І калі ён хацеў, каб на яго звярнулі ўвагу, то крычаў: Я-а-а-а! Значна пазней, калі ў нашых продкаў з'явілася неабходнасць гукам выразіць адносіны да Правадыра, паказаць на яго, утварылася першае слова: Ян-н-н.

**— Цікава. Але ж як гэта абгрунтаваць?**

— А слухайце. Правадыр жа быў адзін. І вось што цікава: на ўсіх мовах свету слова *адзін* сугучна слову *Ян*, менавіта гэтыя дзве літары складаюцца ў корань слова.

Так утварылася другое слова—лічэбнік. І яшчэ. Гэтае імя захавалася толькі на тэрыторыі Цэнтральнай Эўропы. Значыць, менавіта тут яно нарадзілася і мае такія глыбінныя карані, што праз ліхалецці тысячагоддзяў захавалася. Але на ўсходзе яно стала Іванам, а потым Іаанам, далей на захадзе Ванам, Вэнам, Джонам і г.д.

**— Ну даяце! Выходзіць, што наша мова адна з найстаражытнейшых моў свету!**

— Вырашайце самі. Вось яшчэ адзін прыклад. Слова *сумленне* гучыць па-руску як *совесть*. Словы і падобныя і розныя. Разбярэмся, у чым іх падабенства і рознасць. У абодвух словах выразна дзеліцца на дзве часткі іхняя структура: прыстаўкі *со* і *су* і карэнныя гукі. Цяпер услухаемся ў карэннае *весть*. Так-так: *веды — весть — истина*. Галоўная ж кніга Усходу — Веды. Для менталітэту ўсходніх народаў характэрнае менавіта гэтае паняцце. А *сумленне*? Які тут корань?

**— Млен.**

— Так дык яно так. Але не зусім. Літара *м* з'явілася значна пазней. Ад першапачатковага слова засталося толькі *л*. Незразумела?

— Не.

— Слухайце. Супляменнікі Яна жылі ў вельмі жорсткіх умовах. Небяспека падсцерагала на кожным кроку. І калі Ян хацеў папярэдзіць аб ёй, то крычаў *ю-ю-ю*! Так мы створаныя, што пры адпаведных умовах да галоснага гуку просіцца зычны: *лю-ю-ю*! Гэта яшчэ не слова, толькі гук. Значна пазней, каб уміласцівіць Прыроду, продкі збіраліся на капішчы (археолагі да гэтага часу знаходзяць такія месцы на ўзгорках, абкладзеныя навокал валунамі) і прасілі: Лі-і-і! Вось Вам карані словаў *літасць* і *люты*.

**— Пачакайце! Я здагадаўся!!! Літасць. Літасць. Гэта ж малітва.**

— Так, так. У нас захавалася цудоўнае слова: *мова*. Гук ма ў слове *малітва* і сведчыць аб тым, што нашы продкі са з'яўленнем гэтага слова авалодалі мовай. А слова ж *мама* гучыць аднолькава на ўсіх мовах свету. Сувязь жа яго з першапачатковымі карэннымі гукамі захавалася толькі ў нашай мове. Але мы крыху забеглі ўперад. Услухайцеся. Слова *літасць* вам нічога не нагадвае?

**— Літасць... літасць... ліцiя...**

— Так, так. Ліція. А якая ж сапраўдная назва нашай Дзяржавы?

**— О! Дзякуй! Дзякуй! Я зразумеў. Літва. Літва. Літва.**

— Давайце вашу руку. Мы — ліцвіны. Гэта наша Зямля. Гэта наша Бацькаўшчына. Гэта наша мова.

— Су-мленне — мленне — малітва — мама...

**Генадзь ШАРЫ.**

# ЯНЫ ПАВІННЫ БЫЛІ Б ЖЫЦЬ...

*(Працяг. Пачатак на стар. 1).*

Ганна Георгіеўна — псіхолаг і педагог Гематалагічнага Цэнтра. Месяц за месяцам, дзень за днём яна зжывалася з дзецьмі, іх бацькамі, дапамагала ў страшных стрэсавых сітуацыях, калі дзіця, а асабліва ягоныя бацькі, разумеюць — шанцаў на выжыванне ўжо няма. А без веры ў выратаванне жыццё губляе ўсялякі сэнс... Нібыта самі сабой, збіраліся фотакарткі, што рабіў нехта з бацькоў, з фотакарэспандэнтаў, якія часта сюды зазіраюць. І менавіта яны, а таксама лісткі, напісаныя хворымі, ствараюць своеасаблівую гісторыю Цэнтра, яго перамог і, пакуль што, паражэнняў.

Я працую «медбратам» у Цэнтры з 1991 года. Якраз тады на базе дзіцячага аддзялення 1-й клінічнай бальніцы г.Мінска ўтварыўся Рэспубліканскі дзіцячы гематалагічны цэнтр, у якім лячыць сталі па новых методыках, распрацаваных у Германіі — Берліне, Франкфурце, Мюнстэры. Гэта быў магутны крок, нават некалькі крокаў наперад, бо гэтае супрацоўніцтва ўжо дае нам шчаслівыя, бесклапотныя твары дзяцей, якія вылечыліся ад раней амаль невылечнага захворвання — вострага лейкозу, і ўдзячныя твары іх бацькоў.

Але тым большым кантрастам успамінаюцца тыя, каму мы не змаглі дапамагчы.

Ганна Георгіеўна пачала тут працу трошкі раней, калі выжывала ў лепшым выпадку 13 працэнтаў.

Юра Ц. быў з ліку тых, хто мог бы выжыць. Але яму давялося паміраць у такіх пакутах, якія не пад сілу дарасламу. Я бяру маленькі лісток з блакнота, на якім дзіцячым разборлівым почыркам напісана: «Іне Львоўне. Я, Юра Ц., адмаўляюся ад лячэння. Па тых прычынах, што мне ўсё надакучыла, я не магу болей цярпець. Мяне нішто больш на зямлі не трымае. Пакіньце мяне спакойна паміраць, так, я гэтага хачу. Я шкадую, што Вольга Віталеўна (загадчыца Цэнтра. — Заўвага аўтара) выратавала мяне ад гепатыта. Я хачу памерці спакойна, калі ласка, мне нічога не рабіце, я ўсё роўна не дам. Гэта маё апошняе слова. Прашу захаваць гэта ў сакрэце.»

Юру я не застаў. Нават фота яго няма. Ад дзесяцігадовага чалавечка на Зямлі застаўся гэты крык болю і адчаю, і пакорлівасці Смерці.

Але пакорлівасць — не ўласцівая дзецям. Пакуль могуць, яны змагаюцца за жыццё: з гатоўнасцю прымаюць таблеткі, церпяць страшны боль, калі робіцца пункцыя, іігла ўпіваецца ў косць, ванітуюць цэлымі начамі, калі ідзе хіміятэрапія і атрута па катэтары паступае ў кроў, каб разбурыць пухлінныя клеткі. Горш за ўсё бывае, калі сіл цярпець усё гэта ўжо нестае. Тады — крык адчаю, калі набліжаешся да яго са шпрыцам. Упрошванне: «Не чапайце мяне!» Часам проста стогн — стогн, які пераварочвае душу. Але я павінен ісці і рабіць сваю справу, я медбрат, які павінен дакладна выканаць прызначэнне ўрача.

За тры гады я нагледзеўся на многае. Я гляджу фотакарткі, якія нагадваюць тыя ці іншыя этапы і майго жыцця, і мае ўражанні ад дзяцей, якія глядзяць у аб'ектыў так мудра і адрачона.

Вось прыгожанькая, у паласатай сукеначцы, падобная да Мальвіны, Святлана. Як цярпліва пераносіла яна ўсе працэдуры і толькі моўчкі глядзела на маці, якая звычайна стаяла каля ложка і нібыта сама перажывала кожнае імгненне гэтае працэдуры. Не дзіўна — наша «Мальвiначка» нарадзілася, калі Валянціне Іванаўне было за трыццаць, гэтае дзіця было доўгачаканае, радаснае... Яна нібы суцяшала сваю маці, і тая, трывожна гледзячы на дачку, супакойвалася — значыць, гэты ўкол можна перанесці і перажыць... Успамінаю і другую — пяцігадовую Н., якая за два-тры дні да смерці спакойна і разважліва гаварыла маці: «Калі я памру, не плач. Мне не будзе балюча. Скончацца твае пакуты. Ты завядзі новае дзіця і беражы яго». Я не містык, але стваралася ўражанне, што іх голасам, але за іх гаварыла Штосьці, што стаяла за парогам Леты і было непадуладнае нашым, зямным меркаванням...

Дасюль стаіць у вачах чатырохгадовы Сярожа В., які пачынаў горка-горка плакаць, варта было да яго наблізіцца чалавеку ў белым халаце. Любімай ягонай цацкай быў яркі нямецкі фламастар. Ён разглядаў яго, нібы дзіва, цэлымі гадзінамі. І нават калі мама чытала яму казкі, ён не выпускаў гэты фламастар з рук, нібы свой талісман, ад якога рабілася лягчэй. Так і стаіць у вачах гэтая карціна — вечар, рэанімацыйны пакой на дваіх, маці хлопчыка чытае Андэрсена, а ён, нібыта маленькае качанятка, сядзіць у цёплым белым гняздзечку са сваім зялёным фламастарам... У яго быў імунадэфіцыт. Незадоўга да выпіскі (маці адмовілася ад лячэння, яны паехалі дадому, у Гомельскую клініку) я даваў яму кроў. Пластыкавы пакецік з маёй крывёй вісеў над яго галавой, цяжкія кроплі павольна каціліся па амаль празрыстаму пластыкаваму шнуру кропельніцы, і я ўсёй душой жадаў выздараўлення ці, прынамсі, хаця б паляпшэння гэтаму цудоўнаму малому... Пасля я суправаджаў яго на санітарным самалёце ў Гомель, было лета, «кукурузнік» ляцеў вельмі невысока над зямлёй, мільгалі зялёныя прамавугольнікі палёў, верхавіны соснаў каля Сажа; Сярожа спачатку прагна назіраў за ўсім гэтым, пасля прытаміўся, заснуў у маці на каленях, а тая баялася паварушыцца і пяшчотна дакраналася час ад часу вуснамі да бялявай галоўкі хлопчыка... Я не ведаю, ці жывы ён — не хапае часу на ўсё, але хачу верыць, што жывы, што не стаў закачанелым трупікам з выразам пакуты, як некаторыя дзеці, хто, здаецца, толькі што гаварыў, прасіў нешта або чытаў вершы на якім-небудзь свяце, якія ўвесь час імкнулася наладжваць Ганна Георгіеўна. На адным з апошніх, наладжаным газетай «Культура», дзе выступаў Коля Гімалетдзінаў, адзін з гасцей, саступаючы месца хвораму малому, сціснуў яго за плечы, трошкі трасянуў —"сядай лепей, глядзі!", і адразу ж трывожна загаварыла маці: «У яго катэтар, асцярожна, а то выскачыць...»

Кожны раз, калі іду на дзяжурства, я малюся ў душы, каб яно прайшло спакойна, каб ніхто з нашых дзяцей не памёр. Колькі ўжо я бачыў, як трывога нібыта згушчаецца ў рэанімацыйным аддзяленні, пасля голас маці ці дзяжурнага — і забегалі медсёстры, урач робіць масаж сэрца, якое адмовілася працаваць, пасля ўключаецца апаратура, на маніторы зялёнымі зігзагамі забілася кардыяграма... Хвіліны такога змагання перарастаюць у гадзіны, калі не заўважаеш нічога навокал. І як жа невыносна цяжка, калі ўсё гэта — дарэмна, калі наступае момант разумення, што перамагла Смерць... Але самае жахлівае — сказаць пра гэта бацькам, шукаць словы, якім сам не верыш...

Над гэтымі аблыселымі дзіцячымі галоўкамі, над іх шырока расплюшчанымі вочкамі мне вельмі часта бачыцца як чорны монстр — чарнобыльскі саркафаг, гэта ягоны цень, кладучыся на нашу зямлю, забірае іх прагна і ненасытна. Калі часам з флаконам лекаў уначы пераступаеш праз раскладушку, на якой побач з дзіцем спіць маці — а пераступаеш таму, што цесна, думаецца пра шырокія начальніцкія кабінеты і пра тое, што, магчыма, каб былі ў нас лепшыя ўмовы, выжыў бы — Саша, Пеця, Віця...

Ідуць гады. Восьмая гадавіна Чарнобыля. Многія з іх ужо закончылі б школу...

**Руслан КАЧАТКОЎ.**

# ЯГО ТУТ ЧАКАЮЦЬ З НЕЦЯРПЕННЕМ

**КАЛІ доктар медыцыны Валянцін Герайн прыязджае ў Мінск, здаецца, само паветра пачынае іскрыць — столькі энергіі, ідэй, а галоўнае — жадання дапамагчы нашым дзецям і ўрачам — зыходзіць ад гэтага маладога, прывабнага чалавека, знешне зусім не падобнага да стрыманых і крышку як бы нават халаднаватых яго суайчыннікаў з Германіі. Ён сыпле жартамі, прымаўкамі, бездакорна валодаючы рускай мовай. Веданне ж усёй нашай бюракратычнай сістэмы «знутры» і нашай, савецкай і постсавецкай псіхалогіі дазваляе яму пераадольваць мноства бар'ераў, якія мы ўмудраемся ставіць на шляху людзей, шчыра гатовых нам дапамагаць. А ён шмат робіць для Беларусі. І, можа, сярод мноства яго якасцей ёсць адна, найбольш, на маю думку, прывабная — ён бачыць перспектывы беларуска-нямецкага супрацоўніцтва праз дзесяцігоддзі, ён мысліць катэгорыямі дзяржаўнага дзеяча, а не толькі нямецкага прафесара, заклапочанага ўкараненнем так званых пратаколаў, ці новых методык, па якіх лечаць хворых на лейкемію чарнобыльскіх дзяцей. Прынамсі, менавіта таму ён хоча не толькі стварыць на тэрыторыі былога Савецкага Саюза новыя, сучасныя Цэнтры (у ліпені такі Цэнтр мяркуецца адкрыць у Тбілісі), дзе мог бы абагульняцца агульнаеўрапейскі ўзровень методык і даследаванняў па гематалогіі, але і навучыць нашых маладых урачоў бачыць маштабныя задачы, якія трэба пачынаць рашаць ужо сёння.**

**Гэтае інтэрв'ю я ўзяла ва універсітэцкай клініцы ў Франкфурце-на-Майне, дзе праходзіла чарговая канферэнцыя па гематалагічных праблемах і ў якой удзельнічала невялікая група беларускіх урачоў: А.Дакучаеў, Е.Жукоўская, М.Багачэнка, І.Савановіч і іншыя — з Гомеля, Гродна, Мінска. Яны таксама прымалі ўдзел у нашай гаворцы, але закранулі столькі праблем, што змясціць іх у адным артыкуле немагчыма. Таму я вырашыла, праслухоўваючы запісы, даць ім слова пазней, аддаўшы перавагу таму, хто сабраў іх тут, каб даць магчымасць на роўных гутарыць з нямецкімі калегамі, атрымліваючы самае дарагое для кожнага — веды і ўпэўненасць у сваіх сілах.**

**В.І.:** Спадар Герайн, я ведаю, што Вы нарадзіліся ў Расіі, скончылі тут медінстытут і 6 гадоў працавалі ўрачом. Ці не маглі б Вы падрабязней расказаць аб гэтым?

**В.Г.:** Я не проста нарадзіўся ў Расіі — я нарадзіўся ў лагеры Мухінскі Кіраўскай вобласці, куды адправілі маіх рэпрэсіраваных бацькоў. Гэта быў 1951 год — разгар сталінскага ўсяўладдзя. Садзіць жа маіх бацькоў па тых мерках было за што: з абодвух бакоў — мамінага і татавага — гэта былі багатыя, культурныя нямецкія сем'і. Дзед па мамінай лініі паходзіў са старой дваранскай сям'і з Эльзаса. Пасля рэвалюцыі ён здаў дзяржаве ўсе свае грошы, а жыў на тое, што да 1937 года разводзіў пчол. З 1937 года, ажно да 1941-га, хаваўся ад улад — немцы былі заўсёды як бы «не свае». Я часам здзіўляюся — як я выжыў, нарадзіўшыся закляймёным, лагернікам? Мабыць, таму я і не падобны да немца (смяецца) — бачыце, чарнявы, круглатвары. Бацька часта паўтараў: «Хачу быць пахаваным у Германіі». І я шчаслівы, што ён пахаваны там. А мама жыве — і мы часта ўспамінаем былое...

**В.І.:** І вы не азлобіліся, не пастараліся забыць жыццё тут, ва ўмовах чалавека «другога гатунку», а наадварот, умацоўваеце сувязі Германіі з Расіяй і Беларуссю?

**В.Г.:** У нас была вельмі набожная каталіцкая сям'я, дзе былі моцныя хрысціянскія традыцыі. Наш дзед, памятаю, вучыў нас даглядаць хворых старых падчас эпідэміі грыпу. У сям'і паважалі кожнага, хто добра працаваў; бацька здабываў грошы, мама адказвала за сям'ю. І гэта засталося назаўсёды, хаця, вядома, былі і іншыя ўплывы — савецкая, ваяўнічая псіхалогія...

**В.І.:** Цяпер Вы можаце параўноўваць не толькі сямейныя псіхалогіі, але і сістэмы аховы здароўя ў нас і на Захадзе, у аснове якіх, як мне здаецца, ляжыць адзін крытэрый — адносіны да чалавека.

**В.Г.:** Прыехаўшы ў Германію, я быў здзіўлены вялікай павагай да простага чалавека, асабліва тым, што і «бомжаў», і алкаголікаў лечаць у добрых шпіталях. Увогуле, у нас медыцына аднолькавая — для простага і для дзяржаўнага чалавека. У вас жа агульная сістэма аховы здароўя, тая, што для ўсіх, — на даволі нізкім узроўні (так было і ў мінулыя гады). Для пэўнай часткі грамадства — на самым вышэйшым — спецклінікі, спецсанаторыі; калі ж і там не могуць дапамагчы — іх пацыенты лечацца на Захадзе. Яшчэ адно адрозненне: у нас на медыцыну выдзяляецца багата грошай — па патрэбе; у вас жа — тое, што застаецца ў бюджэце.

Яшчэ — на Беларусі кіраўнік Цэнтра — гэта альбо супрацоўнік кафедры, адарваны ад пацыента, які да таго ж часта памыкае ўрачом-практыкам, альбо супрацоўнік НДІ, які абавязаны ўкараняць свае, часам нікому не патрэбныя, вынаходніцтвы. Яму запланавалі далёкую ад практычных патрэб працу — вось ён і спрабуе яе ўкараніць...

**В.І.:** Чаму ўсё-ткі Вы супрацоўнічаеце з Усходам? Да нас нават прыехаць не так проста. Я ведаю, як часам абыходзяцца нашы мытнікі з замежнымі гасцямі, колькі нязручнасцей Вы маеце ў побытавых умовах, асабліва ў параўнанні з заходнімі стандартамі. І, апроч таго, часам — раўнадушша тых, хто нават па сваёй пасадзе абавязаны праяўляць гарачую зацікаўленасць у перадавой тэхналогіі і методыках.



**В.Г.:** Я прыязджаю сюды, на Усход, таму, што вы — нашы суседзі, а, як кажуць, «свая кашуля бліжэй да цела» (смяецца). Апроч таго, на нас цяпер проста хлынулі хвалі вашых хворых, а іх трэба было б лячыць на месцы.

Што ж тычыцца дзіцячай онка-гематалогіі, то ў Германіі яна апошнім часам атрымала вялікае развіццё, таму што яна стаіць на вастрыі сучасных праблем чалавецтва. І тое, што важна для нас усіх, можа быць вынайдзена тут. Мне здаецца, што важней аддаваць сюды дарагую тэрапію, а не слаць вагоны з бульбай, бо гэта не спрыяе нічому, а толькі можа паскорыць маральную дэградацыю. Я хачу, каб маладыя беларускія ўрачы тут, у нас, у Германіі выразна зразумелі вялікую важнасць развіцця дзіцячай онка-гематалогіі, педыятрыі, у тым ліку дародавай аховы дзіцяці. Гэта ж вельмі важна для вашай нацыі!

Нездарма пазаўчора мы стварылі тут, у Германіі, таварыства супрацоўніцтва з дзіцячымі анколагамі і гематолагамі «Еўраазія». Яго душа — прафесар Ф.Ламперт, нездарма пачаў пасяджэнне з канцоўкі аднаго з апавяданняў Льва Талстога: «Дзеці, любіце адзін аднога!» Намеснік старшыні — прафесар Шэлонг, яго бацька вядомы ў гісторыі медыцыны «пробай Шэлонга». Яшчэ адзін выдатны спецыяліст — прафесар Корнхубэр, ён не ўвайшоў у кіраўніцтва, але такіх, як ён, мы збярэм у так званы «пояс кансультантаў». Мы задумалі стварыць 12 онка-гематалагічных цэнтраў у Расіі і Казахстане, але яны патрэбныя паўсюдна...

**В.І.:** Я чула ў медыцынскім інстытуце ў Гановеры размову пра тое, што ўзровень ведаў нашых урачоў у галіне онка-гематалогіі даволі нізкі. Праўда, гаварылася і аб тым, што, не атрымліваючы сучаснай інфармацыі ў гэтай галіне хаця б два гады, урач амаль безнадзейна адстае ад сусветнага ўзроўню навукі — а ў нас, як вядома, пакуль што няма камп'ютэрнай сістэмы інфарматыкі. Як Вы мяркуеце, ці можа ў бліжэйшыя 5-10 гадоў узровень нашых урачоў зраўняцца з заходнім?

**В.Г.:** Для адзінак — тых, хто часта прыязджае на Захад, хто ведае мовы і такім чынам можа хаця неяк далучыцца да інфармацыі, — так. Але цяжка «з лямпачкай Ільіча» рабіць хоць якія прагнозы... І ўсё ж — многае зроблена для таго, каб у Мінску быў нарэшце сучасны онка-гематалагічны цэнтр, і ў ім былі дасведчаныя ўрачы... У славян увогуле магутны патэнцыял, і важна яго стымуляваць. Ад гэтага будзе добра і вам, і нам. Асабліва дзецям, якім будаваць ваша беларускае грамадства і ўвогуле Будучае.

**В.І.:** Дзякуй за гутарку.

*У гэтыя дні доктар медыцыны Валянцін Герайн зноў прыязджае да нас — праводзіць традыцыйны міжнародны сімпозіум па праблемах онка-гематалогіі, праводзіць ледзь не на голым энтузіязме — сваім і тых, хто яму дапамагае, таму што для многіх, чыіх дзяцей ён дапамагае ратаваць, ён даўно стаў блізкім і чаканым...*

**Вольга ІПАТАВА.**

**Фота Руслана КАЧАТКОВА.**

# «НАМ НЕ СОРАМНА СТАЯЦЬ З ПРАЦЯГНУТАЙ РУКОЙ»



**СЁННЯ словы «спачуванне», «міласэрнасць», на жаль, амаль што страцілі свой першасны сэнс, не выклікаючы ў душах і сэрцах людзей гарачых, шчырых пачуццяў ды жадання падставіць плячо, прыйсці на дапамогу таму, хто яе чакае. А пачуўшы слова «дабрачыннасць», ува многіх на твары нават з'яўляецца незадаволеная грымаса, маўляў, тут самому б як-небудзь выжыць, звесці канцы з канцамі, прапаўзці.**

**Безумоўна, нам зараз цяжка. Усім. Але калі мы, дарослыя, у такі цяжкі і неміласэрны час маем магчымасць хаця б змагацца за сваё выжыванне, шукаючы выйсце нават з безвыходнай сітуацыі, дык дзеці нашыя — слабыя, бездапаможныя — не маюць і гэтага. Асабліва калі яны — хворыя...**

**Аб праблемах дзяцей, хворых на страшныя, да нядаўняга часу безнадзейна смяротныя захворванні, і іхніх бацькоў мы гутарылі напярэдадні чарговай сумнай гадавіны Чарнобыльскай трагедыі са старшынёй праўлення Беларускага рэспубліканскага таварыства «Дзеці ў бядзе» спадаром Яўгенам УКРАІНЦАВЫМ.**

**— Яўген Андрэевіч, Таварыства існуе ўжо больш за тры гады, але Вы працуеце тут адносна нядаўна. Якія шляхі прывялі Вас сюды і якой Вы бачыце тут сваю ролю?**

— Мне здаецца, што шлях у нашую суполку заўсёды аднолькавы — праз страшэннае няшчасце, якое прыходзіць у сям'ю разам са словам «рак». Тады, у лістападзе 1992 года, калі павёз майго чатырохгадовага ўнука Жэню ў Дзіцячы хірургічны цэнтр пры 1-й гарадской бальніцы, я не мог нават і ўявіць сабе, што забяру яго адтуль са страшным дыягназам: лімфасаркома страўніка. Здавалася, жыццё ў нашай сям'і спынілася... Усе высілкі былі скіраваныя на тое, каб выратаваць малога, дапамагчы яму выжыць. Гледзячы на пакуты дзіцяці, я сотні разоў задаваў сабе адно і тое ж пытанне: чаму ён? Чаму менавіта ён? З паведамленняў у прэсе і іншых сродках масавай інфармацыі я ведаў ужо, што колькасць беларускіх дзяцей, якія хварэюць на злаякасныя хваробы, пагражальна ўзрастае з кожным годам. Аднак здавалася, што ўсё гэта было недзе далёка і ніколі не дакранецца да цябе, да тваёй сям'і... На жаль, усе мы павінны зразумець і ўсвядоміць сабе, што падобнае няшчасце можа напаткаць КОЖНУЮ сям'ю, што ніхто не можа быць застрахаваны ад такой бяды. Таму я і прыйшоў у таварыства «Дзеці ў бядзе», спадзеючыся як мага больш дапамагчы ягонай рабоце і, шчыра кажучы, тады зусім не думаў, што хутка давядзецца стаць старшынёй праўлення. Падчас рэспубліканскай канферэнцыі, што адбылася ў лютым гэтага года, пасля адстаўкі былога кіраўніцтва Таварыства, мне было прапанавана ўзначаліць яго. Я вагаўся, бо не быў упэўнены, што здолею сумяшчаць асноўную працу (я па прафесіі — вайсковец) і дзейнасць па дапамозе дзецям. Але пасля размовы з дырэктарам Дзіцячага онка-гематалагічнага цэнтра В.Алейнікавай усё ж прыняў гэтую прапанову.

Што датычыцца ролі старшыні, дык я бачу яе ў максімальнай дапамозе сем'ям, што сутыкнуліся з бядой, прычым, дапамога павінна быць не толькі матэрыяльнай, але і маральнай. «Мы моцныя, калі мы разам» — гэта мой дэвіз. І я імкнуся стварыць калектыў аднадумцаў, людзей, якія разумеюць адзін аднаго з паўслова, бо адзін, як кажуць, у полі не ваяр. А сваёй бліжэйшай задачай лічу наладжванне яшчэ больш шчыльных кантактаў з медыкамі, ад якіх шмат у чым залежыць будучыня хворых дзяцей.

**— Напэўна, для многіх нашых чытачоў назва таварыства «Дзеці ў бядзе» — невядомая. Калі ласка, раскажыце пра гісторыю стварэння вашай арганізацыі.**

— Беларускае рэспубліканскае таварыства «Дзеці ў бядзе» было афіцыйна аформлена як грамадская арганізацыя 29 снежня 1990 года. У гэты дзень бацькі дзяцей, што пакутуюць ад анкалагічных хваробаў, аб'ядналіся. Праграма дзейнасці Таварыства ўключае не толькі, так бы мовіць, матэрыяльны бок праблемы — медыкаменты, харчаванне, штогадовае аздараўленне дзяцей за мяжой, фінансавую дапамогу малазабяспечаным сем'ям. Мы імкнемся, каб хворыя дзеці не адчувалі сябе кінутымі.

Зараз на ўліку ў нашым Таварыстве знаходзіцца больш за 1500 беларускіх сем'яў, што маюць анкалагічна хворых дзяцей; і толькі ў адной Мінскай вобласці іх каля 450.

**— Хто фінансуе дзейнасць Таварыства? Дзяржава?**

— Не, не дзяржава. Мы існуем на дабрачынныя ахвяраванні, унёскі членаў арганізацыі і на дапамогу замежных партнёрскіх арганізацый. На жаль, з боку дзяржавы і яе органаў нашы дзеці акрамя мізэрнай сацыяльнай пенсіі, на якую сёння немагчыма праіснаваць нават некалькі дзён, нічога не атрымліваюць. Пры сённяшняй дарагоўлі нам часта не хапае сродкаў нават на тое, каб набыць паліва для аўтобуса, што адвозіць дзяцей на аздараўленне ў Германію. Таму даводзіцца лічыць кожны рубель. Але здараюцца і прыемныя нечаканасці: не так даўно з Савета народных дэпутатаў Савецкага раёна сталіцы быў пераведзены на наш рахунак мільён рублёў. Але асноўныя нашыя сродкі — дабрачыннасць.

**— Я ведаю, што ў таварыства «Дзеці ў бядзе» наладжаны добрыя сувязі з замежнымі арганізацыямі. Хто і як дапамагае нашым хворым дзецям?**

— Сапраўды, у нас ёсць верныя і надзейныя сябры ў Францыі, Швейцарыі, Італіі, але асабліва добрыя адносіны існуюць паміж нашым Таварыствам і партнёрамі з зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія, што ў Германіі. Ініцыятыўныя групы, якія ўзначальваюць спадары Ёханес Ціле, Карла Аўрых, Дагмар Осіг, Хільдэгард Котман, Эрыка Штровер ды іншыя, шмат што зрабілі і робяць дзеля таго, каб нашыя дзеці штогод мелі магчымасць адпачываць у нямецкіх сем'ях, адчуваючы клопат і любоў сваіх новых нямецкіх «бацькоў». Вядома, што пасля Чарнобыля Беларусь сталася экалагічна нестабільнай зонай і, хаця нас запэўніваюць, што ў радыяцыйным плане «ў нас усё добра», мы разумеем: не ўсё. Дастаткова адзначыць, што радыяцыйны фон у Германіі прыкладна ўдвая ніжэйшы, чым тут. Я ўжо не кажу пра вітамінізаванае, экалагічна чыстае харчаванне, мноства гародніны і садавіны, якую беларускія дзеці дома нават не каштавалі...

Гаворачы аб замежных партнёрах, не магу не сказаць і аб грашовых ахвяраваннях, якія яны збіраюць для нашых патрэбаў. Камп'ютэр, ксеракс, тэлефакс, якія вы бачыце тут, у нашым офісе, — гэта падарункі нямецкіх сяброў. У апошні час мы ўсё болей адчуваем неабходнасць у пашырэнні нашых сувязяў з замежжам. Амаль 2000 сем'яў стаяць зараз у нас на ўліку, а забяспечыць месцамі на паездку мы ў стане толькі нязначную частку. А ў ідэале мы імкнемся да таго, каб КОЖНАЕ анкалагічна хворае дзіця штогод адпачывала за мяжой. Таму настойліва шукаем новыя кантакты. Зараз мы распрацоўваем цікавую прапанову, якая паступіла са Швейцарыі, але гэта — справа будучага.

**— Ці супрацоўнічаеце Вы з іншымі арганізацыямі ды суполкамі «чарнобыльскага профілю», такімі, напрыклад, як «Дзецям Чарнобыля»?**

— Так. Стаўшыся старшынёй Таварыства, я адразу вырашыў нанесці «афіцыйныя візіты» ў іншыя фонды, якія займаюцца постчарнобыльскімі праблемамі. Я наведаў Беларускі фонд Міру, Дзіцячы фонд, арганізацыі «Медыцына і Чарнобыль», «Дзецям Чарнобыля», «Водгук». Спадзяюся на тое, што не асабістыя амбіцыі, а асэнсаванне таго, што мы ўсе робім адну і тую ж справу



— ратуем дзяцей, будзе мець вырашальнае значэнне для ўсталявання добрых таварыскіх адносінаў паміж суполкамі. А пакуль што ўсе гэтыя арганізацыі, на маю думку, яшчэ не ператварыліся ў адзіны, добра адладжаны механізм.

**— Як вы вырашаеце праблему дарагіх медыкаментаў і наогул іх дэфіцыту? Часам жа немагчыма набыць нават таблеткі ад галаўнога болю...**

— Гэта праблема сапраўды стаіць для нас вельмі востра. Медыкаменты, якіх вымагае методыка лячэння нашых дзяцей — гэта цытастатыкі, антыбіётыкі шырокага спектру дзеяння ды шмат якія іншыя прэпараты. Да нядаўняга часу нашыя патрэбы ў якойсьці ступені забяспечваліся дабрачыннымі пастаўкамі з-за мяжы, але ў апошні час іх колькасць прыкметна знізілася. Я перакананы, што праблема лекаў — гэта праблема не грамадскіх і дабрачынных арганізацый, а ДЗЯРЖАВЫ! Няўжо офісная мэбля ці ўрадавыя «лімузіны» важнейшыя за лекі для цяжка хворых дзяцей?! Добра яшчэ, што сябры не пакідаюць нас: нядаўна для дзяцей, хворых на рак шчытападобнай залозы, было выдаткавана 1000 DM для набыцця прэпарата АТ-10 і яшчэ 3200 DM — каб набыць рэактывы для лабараторыі. Спадзяемся таксама ў самы бліжэйшы час атрымаць з-за мяжы прэпарат лейкамакс, неабходны дзецям у перыяд інтэнсіўнай падтрымліваючай тэрапіі.

**— Існуе думка, што, магчыма, эканамічна выгадней было б аздараўляць хворых дзяцей тут, на Беларусі, а не выдаткоўваць вялікія валютныя сродкі на іхнія паездкі за мяжу. Што Вы думаеце на гэты конт?**

— Ведаеце, калі б быў упэўнены, што дзеці атрымаюць на радзіме паўнавартасны адпачынак і харчаванне, можа, я і пагадзіўся б з гэтым меркаваннем. Але хто запэўніць мяне, што ўсе прадукты, якія будуць есці дзеці, — экалагічна чыстыя і высакаякасныя? Я думаю, да таго ж, што раздзяленне Беларусі на «чыстыя» і «забруджаныя» зоны — вельмі ўмоўнае, бо ўся наша краіна ў той ці іншай ступені — ахвяра Чарнобыльскага выбуху. Але нам усё ж неабходны ўласны рэабілітацыйны цэнтр, дзе дзіця пасля шматмесячнага знаходжання ў клініцы магло б адпачыць разам з маці. Гэты праект мы будзем распрацоўваць разам з калегамі са Швейцарыі ў самы бліжэйшы час.

**— І апошняе пытанне. Якімі бачацца Вам перспектывы развіцця Беларускага рэспубліканскага таварыства «Дзеці ў бядзе»?**

— Самая бліжэйшая перспектыва — гэта дабрачынны тэлемарафон, які будзе наладжаны 24 мая ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі пад дэвізам «З надзеяй на міласэрнасць». Мы плануем удзел у гэтым свяце вядомых артыстаў і калектываў, такіх, як Беларускі дзяржаўны камерны хор, студыя «Сябры» пад кіраўніцтвам Анатоля Ярмоленкі, паказальны дзіцячы ансамбль «Чабарок». Вядуцца перамовы аб удзеле ў тэлемарафоне іншых знакамітых дзеячаў беларускай культуры.

Карыстаючыся выпадкам, хацелася б звярнуцца да ўсіх, каму неабыякавы лёс беларускіх дзяцей, чые сэрцы адчынены для дабра і міласэрнасці, з заклікам стаць нашымі спонсарамі і сябрамі. Гэтыя грошы не абкладаюцца падаткамі, і ў спонсараў будзе магчымасць пракантраляваць выкарыстанне іхніх ахвяраванняў.

Нас часта дакараюць за тое, што мы стаім «з працягнутай рукой», наведваем розныя прадпрыемствы, камерцыйныя ўстановы, банкі з просьбамі аб матэрыяльнай ды фінансавай дапамозе. Нам не сорамна стаяць з працягнутай рукой, бо я ведаю, што за кожным ахвяраваннем, кожным пералічэннем на наш разліковы рахунак — яшчэ адно выратаванае дзіцячае жыццё, яшчэ адна спраўджаная надзея. Усім тым, хто пажадае адгукнуцца на нашу бяду, узяць удзел у дабрачынным тэлемарафоне «З надзеяй на міласэрнасць», — паведамляю нашы каардынаты:

Разліковы рахунак БРТ «Дзеці ў бядзе» N 700517 у АКБ «Прыорбанк» г Мінска, код 749.

Кантактны тэлефон (факс): 31-89-00.

**Гутарку вяла Дзіна КІРЫЛАВА.**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА.**

# ЛЁС «МАГІЛЁВА»



У канцы мінулага года супольнымі намаганнямі шэрагу грамадскіх арганізацый Магілёва і найперш Камітэта «Дзеці Чарнобыля» была здзейснена даўняя ідэя стварэння гісторыка-дакументальнага кінафільма «Магілёў». Без удзелу дзяржаўных структур былі знойдзены спонсары, прыцягнуты дабрачынныя ахвяраванні, забяспечаны ўдзел у творчай працы над фільмам лепшых навуковых і мастацкіх сіл рэспублікі.

Грамадскасць пасля прэм'ерных паказаў у Магілёве, Мінску, Карлсруэ (Нямеччына) адзначыла фільм як грунтоўную працу на ніве адраджэння нацыянальнай гісторыі, яго значную мастацкую і асветніцкую каштоўнасць.

На адрас юрыдычнага ўласніка фільма Фонду адраджэння культурнай спадчыны Магілёва дасылаюцца шматлікія заяўкі на пакупку відэакопіі, тэматычныя паказы, сустрэчы з творчай групай ад арганізацый і ўстаноў з усёй краіны, замежных суайчыннікаў. Відавочна, што ўсе выдаткі па стварэнні фільма маглі б акупіцца ў кароткі час. Але ж, усведамляючы, што найбольш дзейсна і прафесійна далейшы пракат стужкі зможа забяспечыць абласное спецыялізаванае ВА «Кінавідэапракат», была ўзгоднена перадача яму правоў валодання, карыстання і распараджэння фільмам на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Пры гэтым усе правы перадаюцца «Кінавідэапракату» бясплатна. Фонд абумовіў толькі кампенсацыю кошту ліцэнзіі і дзвюх кінакопій, выробленых для магіляўчан фактычна ў крэдыт мінскай здымачнай групай.

Але падпісанне канчатковай дамовы ўжо некалькі месяцаў зацягваецца службовымі асобамі ВА «Кінавідэапракат». На шматлікіх перамовах з намеснікам дырэктара сп.А.Жураўлевічам мы пераканаліся, што гаворка ідзе не аб эканамічных, відавочна надуманых разыходжаннях. Бачна ідэалагічнае нежаданне арганізоўваць пракат фільма, у якім гісторыя Беларусі на прыкладзе Магілёва разглядаецца не як дадатак да гісторыі «старэйшага брата», а як велічны і трагічны шлях еўрапейскага народа.

За час беспаспяховых перамоў ВА «Кінавідэапракат» за кошт вялікіх бюджэтных датацый прыдбала для маладых магіляўчан дзесяткі эратычна-гангстэрскіх баевікоў, якія шырока рэкламуюцца яго шматлікімі супрацоўнікамі. Фільм жа, створаны з патрыятычнымі пачуццямі і жаданнем адрадзіць любоў да Бацькаўшчыны ў сэрцах грамадзян Беларусі, трывала пакладзены на «паліцу».

Мы звяртаемся да прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі, краязнаўцаў, культурна-асветных супрацоўнікаў, настаўнікаў, актывістаў бацькоўскага руху падтрымаць нас у спробах змены агульнай палітыкі ВА «Кінавідэапракат» на тэрыторыі вобласці, у патрабаваннях падбору яго адказных супрацоўнікаў па прынцыпе нацыянальна-культурнай свядомасці і прафесіяналізму, устанаўленню больш жорсткага кантролю за выкарыстаннем выдаткоўваемых ВА сродкаў падаткаплацельшчыкаў.

**Н.РОСЛАВА,**
**Старшыня Камітэта, народны дэпутат Магілёўскага абласнога Савета.**

# І СЭРЦА ГУЧНА Б'ЕЦЦА ПАД РУКОЙ, КАЛІ ГУЧЫЦЬ СВЯТАЯ ПЕСНЬ РАДЗІМЫ

*ПРЫ гуках гімнаў каранаваныя асобы і прэзідэнты ўстаюць на смірна і прыкладаюць руку да сэрца, а спартсмены на п'едэстале гонару любяць пусціць слязу. Са словамі гімна салдаты куды больш рашуча кідаюцца на акопы ворага ў апошнюю атаку, хоць спевы гэтыя найчасцей становяцца развітальнымі ў іхнім жыцці.*

*Гімн для любога народа, які мае сваю дзяржаву, — нешта надзвычай святое.*

*Заспявай мне свой гімн, а я скажу табе, хто ты. Гэтая парафраза нясе ў сабе шмат праўды.*

Сучасныя дзяржаўныя гімны пачалі ўзнікаць недзе з XIX стагоддзя, і практыка гэтая працягваецца да сённяшніх дзён. Некаторыя з іх за гэты час сталі сапраўды неад'емнымі сімваламі пэўных краін. Зараз нават цяжка сабе ўявіць, каб французы адзначалі свае святы без «Марсельезы», а англічане не ўславілі б пры нагодзе сваю каралеву.

Мелодыі многіх гімнаў самым яскравым чынам адлюстроўваюць тэмперамент, традыцыі і культуру сваіх народаў. У практыцы міжнародных палітычных зносін неаднойчы ўзнікалі сітуацыі, калі ў аркестр абавязкова трэба было ўвесці якія-небудзь там-тамы або пішчэлі, каб як належыць выканаць гімн пры сустрэчы дэлегацыі з афрыканскага, напрыклад, кантынента.

Але ў гэткай жа ступені «люстэркам» душы народа становяцца і словы гімна.

## З ЛЮБОЎЮ НА ВУСНАХ

Бясспрэчна, што найпапулярнейшая тэма ў тэкстах гімнаў народаў свету — захапленне прыгажосцю роднай зямлі. Гэты тэзіс асабліва тычыцца краін, якія па тых ці іншых прычынах не занялі адметнага месца ў сусветнай гісторыі, не маюць вялікіх гістарычных заслуг. ДАМІНІКАНСКАЯ РЭСПУБЛІКА — «востраў харавства і святасці», а СЕНТ-ВІНСЕНТ — «проста цуд». Пейзажныя матывы часта сустракаюцца і ў Еўропе. АЎСТРЫЯ паўстае як краіна гор і імклівых ручаёў, ДАНІЯ — «мілая старонка ў цені букаў», ШВЕЙЦАРЦЫ спяваюць пра «шпацыр на раннім золку» і прыгажосць сваіх гор. ЧЭХІ і БАЛГАРЫ параўноўваюць свае краіны амаль што з раем паднябесным.

Але асаблівы пафас у апісанні айчыны можна знайсці ў гімнах Паўднёвай Амерыкі. БРАЗІЛІЯ — «яскравая мара», «жывы промень», а на патрэбу і «бясстрашны волат», а ЧЫЛІ параўноўваецца з Эдэмам.

Заўважым, што для гімнаў краін гэтага рэгіёна наогул характэрныя матывы нейкай барокавай пышнасці. Амаль усе ўрачыстыя песні лацінаамерыканскіх краін маюць форму разгорнутай сімфанічнай уверцюры, што патрабуе ад выканаўцаў немалога майстэрства. А самы доўгі гімн — уругвайскі — гучыць ажно восем хвілін.

Побач з захапленнем роднымі краявідамі нярэдка ўспамінаюцца карані нацыі ("Ох, КАМЕРУН, калыска нашых продкаў!"). Папулярныя таксама ўрачыстыя прысягі і дэкларацыі вернасці, любві, адданасці, гонару. Патрыёты ІСЛАНДЦЫ пляту́ць сваёй радзіме вянок проста з промняў сонечнай сістэмы. Другія народы задавальняюцца словамі «чэсць» і «слава», ужытымі ва ўсіх склонах.

Пэўна, з традыцый англійскага гімна пайшла мода звяртацца да Бога з просьбай аб апецы і абароне радзімы. Блаславення Найвышэйшага прагнуць у МАЛАВІ, ТАНЗАНІІ і ЗІМБАБВЭ. БРУНЕЙЦЫ просяць у Бога доўгага жыцця для яго светласці султана. Славу султану пяюць у АМАНЕ.

## ДА ЗБРОІ!

Ёсць, аднак, народы, якія больш за красу заснежаных горных вяршынь і дэкларацый незгасальнай любві да краіны, дзе нарадзіліся, усхваляюць у сваіх гімнах драматычныя моманты гісторыі і гераічныя подзвігі продкаў. Узорам для іх, мабыць, стала ўсё тая ж неўміручая «Марсельеза».

Такія матывы сустракаем у гімнах БЕЛЬГІІ і ПОЛЬШЧЫ. Лязг зброі і вайсковы кліч чутны ва ўрачыстых песнях ЕГІПТА, ІРЛАНДЫІ, МЕКСІКІ, ПАРТУГАЛІІ. Пад уражаннем начнога абстрэлу брытанскімі караблямі порта Мак-Хенры ў 1814 годзе Фрэнсіс Скот Кэй піша верш, які пазней стане тэкстам гімна Амерыкі.

Большасць гэтых твораў з'явілася ў XIX стагоддзі на хвалі ўздыму народна-вызваленчай барацьбы і рэвалюцыі. І не дзіўна, што славяцца ў іх найперш такія паняцці, як вольнасць, гонар, братэрства, роўнасць, незалежнасць, мір і справядлівасць.

Але мілітарысцкія тэмы можна сустрэць і ў гімнах навейшай гісторыі. КІТАЙСКІ, напрыклад, заклікае да барацьбы з ворагам і ўзвядзення новага муру з целаў і крыві, у КАМБОДЖЫ ўсхваляецца «вялікая перамога 17 красавіка», у МАЗАМБІКУ — мальба пра доўгія гады жыцця для ФРЭЛІМА, у СУДАНЕ катэгарычна аб'яўляюць: «Мы — армія Бога і нашай радзімы».

## ГІМНЫ ПРАРОЧЫЯ

ДАТЧАНЕ ў сваім гімне звяртаюцца да нардыцкай багіні кахання Фрэі. ІСЛАНДЦЫ нагадваюць, што іх краіна мае ўжо тысячу гадоў. Аднак, бадай, найдалей у даўніну зазірае гімн ЯПОНІІ. Музыка да яго, праўда, была напісана ў канцы XIX стагоддзя, але ананімны тэкст узяты з найстарэйшай вядомай анталогіі японскай паэзіі (905г. н.э.). Апяваецца ў ім квітнеючая імперыя, якой наканавана існаваць і наступныя 1000 год. Што ж, невядомы аўтар памыліўся толькі на некалькі дзесяткаў гадоў, што ў памеры тысячагоддзя сапраўды няшмат. Тым болей, што заняпад японскай імперыі супаў у часе з японскім эканамічным уладараннем.

Зрэшты, здзейсненыя прароцтвы трапляюцца не толькі ў японцаў. СЛАВАЦКАЯ частка гімна Чэхаславакіі заканчвалася сцвярджэннем «славакі ажывуць», што і пацвердзілася ў хуткім часе. Нешта падобнае назіраецца і ў гімне ІНДЫІ, які заклікае Пенджаб прачнуцца пад сваім сапраўдным імем. Здаецца, гэтае абуджэнне прыносіць Індыі нямала клопату. Ды і чаго далёка хадзіць, калі наша паўднёвая суседка пачынае сваю песню-сімвал са слоў «Яшчэ УКРАІНА не памерла».

Здараліся, аднак, у «гімнавай» гісторыі сітуацыі і прама адваротныя. ІРАНСКІ гімн з 1933 года ўсхваляў шаха і абяшчаў вечны росквіт яго краіны, непараўнальна большы за стараперскія часы. Аднак... Пальцам у неба, між іншым, патрапіў і гімн незабыўнага СССР.

## ЗБЯНТЭЖАНЫЯ БАЛЕЛЬШЧЫКІ

Можна было б чакаць, што гімны — сімвалы сталасці, стабільнасці народаў, квінтэсенцыя нацыянальных імкненняў — з'яўляюцца чымсьці аўтанамічным і непаўторным. Так, зрэшты, у большасці выпадкаў і ёсць. Аднак бываюць і выключэнні.

Музыка БРЫТАНСКАГА «Божа, барані...» у свой час стала першаўзорам НЯМЕЦКАГА імператарскага гімна (1793г.), а таксама ШВЕЙЦАРСКАГА нацыянальнага (1811г.). АМЕРЫКАНСКІ «Зорны сцяг» базуецца на бяседнай песні Лонданскага Анакрэонскага таварыства. АЛБАНЦЫ выконвалі гімн, словы і музыку якога напісалі аўтары з РУМЫНІІ. Надзвычай падобныя гімны ЭСТОНІІ і ФІНЛЯНДЫІ.

Тая ж самая мелодыя чуецца ў гімнах ПОЛЬШЧЫ і ЮГАСЛАВІІ, прытым мелодыя настолькі падобная, што здараліся і смешныя недарэчнасці. Так, аднойчы падчас афіцыйнага футбольнага матча паміж зборнымі гэтых краін польскія балельшчыкі з уздымам падхапілі — «Яшчэ Польшча не загінула...» І можна ўявіць сабе збянтэжанасць югаслаўскіх футбалістаў — у гэты час выконваўся... менавіта югаслаўскі гімн!

Нейкі асаблівы шарм уносяць у гімны краін адметнасці, якія характэрныя выключна для канкрэтных дзяржаў. Так, напрыклад, гімн ШВЕЙЦАРЫІ складаецца з трох куплетаў, у якіх спяваецца практычна адно і тое ж, толькі... па-французску, па-нямецку і па-італьянску. А гімны ДАНІІ і ІСПАНІІ — з дзвюх частак, прычым адна з іх — для ўсенароднага, так бы мовіць, ужытку, а другая — выключна для ўшанавання каранаваных асоб.

## НІШТО НЕ ВЕЧНАЕ

Гісторыя сведчыць, што «якасць» гімна можна вымяраць яго ўстойлівасцю. Чым менш ідэалагізаваны гімн, чым мацней яго гістарычныя і народныя карані, тым больш шчаслівы яго лёс. І, зразумела, наадварот. У былым СССР кожная рэспубліка мела быццам бы свой гімн, але пасля распаду імперыі ні адна навастворaная дзяржава не захацела захаваць гімн «сацыялістычны»: усе ўспомнілі альбо старыя гімны «дааб'яднаных» часоў, альбо звярнуліся да ўзнёслых народных песень.

ТВОРЧАЯ ЖАНЧЫНА

# «Я БЫЛА САМАЗВАНКАЙ НА ТЫМ БАЛІ...»

*СЁЛЕТА ў Германіі быў абвешчаны першы еўрапейскі конкурс п'ес, у якім узялі ўдзел прадстаўнікі 29 краін. Сенсацыяй конкурсу стала першае месца, якое заваявала п'еса «Улюбёнцы лёсу» (у расейскім арыгінале «Баловни судьбы») драматурга з Беларусі Алены ПАПОВАЙ. Тым болей, што Беларусь, у адрозненне, напрыклад, ад Расіі, афіцыйнага запрашэння на ўдзел у конкурсе не атрымала. «Я была самазванкай на тым балі», — такія былі першыя пасля майго віншавання словы Алены.*

*Мы сядзелі ва ўтульнай гасцёўні, у якой дзіўным чынам густоўна злучыліся антыкварная мэбля і сучасны «відзік», і вялі жаночую размову (калі ёсць ідэома «мужчынская размова», то чаму не можа быць гэткай жа значнай размова жаночая?).*

**— У Вашых п'есах многа жаночых персанажаў? Як Вы іх выпісваеце? Ужываецеся ў ролю?**

— Гэта ўсё значна складаней. Я не прызнаю такога паняцця — жаночы персанаж. Часам даводзіцца пераўцялесіцца адразу ва ўсіх герояў, я наскрозь адчуваю ўсе іхнія сувязі, магчымыя і немагчымыя. І гэта не экстрапаляцыя, а як бы паэзія. Мне дыктуюць...

**— А смутны час Вам не перашкаджае чуць Тыя галасы?**

— Не. Я не адчуваю час плоскім. У драматурга заўсёды даволі складана адбываецца жыццё. П'есы могуць ісці ці не ісці па тых ці іншых прычынах. Таму неабходна ўвесь час адчуваць абароненасць. Мне пашанцавала. Муж вельмі любіць маю творчасць і ўсяляк падтрымлівае мяне. Практычна з трыццаці гадоў я не маю службы, знаходжуся на творчай працы.

*... Я гляджу на карціны, напісаныя мужам Алены, выдатным мастаком Грыгорыем Несцеравым. Мяккі жывапіс, размытыя пераходы фарбаў, прытоеная філасофія ў краявідах. А ў куце пакоя — партрэт яе, Алены. Шостым пачуццём адчуваю, што так можна напісаць толькі каханую жанчыну.*

**— Не перашкаджаюць два творчыя чалавекі адзін аднаму, калі яны побач?**

— Не. Дзейнічае прынцып самадастатковасці. Але ў побыце цяжка. І з побытам злучаны мае адзіныя перажыванні. Я, між іншым, выдатна гатую. Але проста ненавіджу хатнюю працу, яна атупляе жанчыну.

**— А Вашы гераіні?**

— Яны розныя... Ды і не пра тое ідзе размова ў маіх п'есах. Безумоўна, ёсць і жанчыны, народжаныя для кухні. І гэта выдатна.

**— Дазвольце банальнае пытанне. Якая наогул мусіць быць жанчына?**

— Добрая маці, добрая жонка, добрая дачка, добрая сястра.

**— А ў сацыяльным плане?**

— Гэта ўжо як ёй пашанцуе. Але, пагадзіцеся, жанчына, якая ўсёй душой уваходзіць у нейкія сферы, неяк нядобра пераўтвараецца. А часам сапраўдныя монстры сустракаюцца сярод дзелавых жанчын.

**— А што такое «творчая жанчына» ў Вашым разуменні? Ці можна адасобіць жаночую творчасць ад мужчынскай?**

— Творчасць — гэта творчасць. Проста нагрузкі розныя, калі ў жанчыны ёсць сям'я. Канешне, ёсць нейкія «полавыя прыкметы» ў творах, але ў ідэале дар — гэта сярэдні дар, як мне здаецца. Змог жа Леў Талстой апісаць роды маленькай княгіні. А цікава б Вам было чытаць дамскую прозу, дамскую паэзію? І ці не выклікае ўсмешку, калі нехта пра сябе кажа: «Я мужчынскі паэт». Мне здаецца, пытанне можа быць толькі ў тым, паэт ён ці не паэт.

**— Як Вы ставіцеся да фемінізму?**

— Я вельмі люблю і разумею мужчын, каб выступаць супраць іх.

**— Але фемінізм мае, усё ж, іншы сэнс, а менавіта — жаданне набыць адпаведнасць свайму полу, ягонай псіхалогіі.**

— Амаль немагчыма набываць «адпаведнасць», бо побыт у нас невыносна цяжкі. А ў ідэале я за свабоду выбару. Калі жанчына лічыць сябе створанай для сям'і, то хай сабе выхоўвае дзяцей. А калі яна можа штосьці акрамя гэтага, ёй павінны дапамагчы выхоўваць дзяцей і працаваць на кухні. І хай яна займаецца тым, чым можа, і да той ступені, да якой можа. Але як у нашай краіне гаварыць пра свабоду творчасці, калі любыя творчыя вынікі тут даюцца цаной неверагодных нервовых высілкаў?

**— У Вас ёсць чыста жаночае хобі?**

— У мяне часу вольнага няма. Я ці пішу, ці займаюся «нелюбімым» побытам, ці гляджу кіно. Вельмі люблю кіно. Нават добра зроблены амерыканскі баявік робіць на мяне ўражанне.

**— А як Вы ставіцеся да лацінаамерыканскіх серыялаў, што пануюць на нашых экранах і, безумоўна, выхоўваюць гледача? У тым ліку і патэнцыйнага гледача Вашых п'ес.**

— Усё гэта жахліва... Памятаеце, існаваў міф пра тое, што савецкі народ чытае больш за ўсіх на свеце. А тое, што здарылася потым, пасля тэрміну дзеяння гэтага міфа, сведчыць зусім пра іншае. Постсавецкі народ абсалютна неразборлівы. Многія кажуць пра серыялы: «Хай глядзяць, гэта кепскаму не навучыць». Але ж размова ідзе пра мастацтва!

**— Магчыма, падобная прадукцыя задавальняе патаемнае чалавечае жаданне зазірнуць у дзвярное «вочка», у акно да суседзяў?**

— Гэта не акно ў чужое жыццё, бо людзі так бяздарна не жывуць.

**— Як Вы знаходзіце перыпетыі для сваіх п'ес?**

— Я не маю падобнай мэты. Можа, некалі ў мінулым... У мяне пяць п'ес пастаўлена, некалькі выдадзена... Штосьці я ў жыцці разумею, а штосьці — не. Усе людзі такія розныя! Кожны такі адрозны! І трэба пражыць немалое жыццё, каб зразумець, што гэта толькі здаецца, што мы падобныя адзін да аднаго.

**— Вы адчуваеце паток часу, ці час у Вас галініцца, крыжуецца плынямі, мае неэўклідаву, нелінейную будову?**

— Я не перастаю думаць пра час і прастору. Я быццам бы знаходжуся ў своеродным самнамбулічным стане. Я магу сабе дазволіць такія творчыя пагружэнні, бо не трэба спяшацца, бегчы, залежаць. Хаця душа ў часе і прасторы думае: «Дзе мы? Калі мы? Навошта мы? У чым мы?..» У мяне ёсць магчымасць не так востра адчуваць марнасць марнасцяў. Магчыма, я да таго і не імкнулася, але так складаецца жыццё. Я гляджу ў сябе, праз сябе — і ўсё бачу ў пластыцы: куды што ідзе. У існасці, жыццё — гэта вялікі тэатр. У маёй «чалавечай калекцыі» вельмі вялікая колькасць «адзінак». Увесь час сустракаюцца людзі. Напрыклад, я атрымала новую кватэру, а значыць — новых суседзяў. Я ведаю: пройдзе час, і паміж імі абавязкова адбудзецца п'еса. Гэта можа здарыцца праз год, праз дзесяць ці праз тры дні. Але іхнія характары абавязкова ўступяць у драматургічнае супрацьстаянне. І калі драмы разыгрываюцца ў жыцці, я атрымліваю творчую радасць. Безумоўна, лепшага драматурга, чым Гасподзь Бог, няма.

**— Як Вы, дарэчы, ставіцеся да рэлігіі?**

— Я прынцыпова не разважаю на гэтую тэму. Калі духоўнасць робіцца модай, пра яе нельга гаварыць.

**— Вы вывучаеце псіхааналіз, псіхалогію?**

— Так. Калі гаварыць пра хобі, то, магчыма, гэта і ёсць маё хобі.

Змянілі гімны ў апошнія гады ў АЛБАНІІ і РУМЫНІІ. Вельмі простую задачу мелі ЧЭХІ і СЛАВАКІ. Іх агульны гімн заўсёды складаўся з дзвюх частак, ён прадстаўляў абодва народы. Са стварэннем дзвюх краін над урачыстымі песнямі пакутаваць не трэба было — заставалася толькі разрэзаць былую партытуру папалам.

Цікавы лёс у НЯМЕЦКАГА гімна. Яго тэкст на музыку Гайдна напісаў Хофман фон Фалерслябен, і ў 1922 годзе гімн быў зацверджаны. Пасля другой сусветнай вайны ГДР стварыла новы гімн, у той час як ФРГ вярнулася да старога, выключыўшы толькі першы куплет з вядомым «Дойчланд, Дойчланд, юбер алес...». Пасля ўз'яднання Германіі агульным быў прыняты, вядома, заходненямецкі варыянт. Але цікава, што надзвычайнай папулярнасцю карысталася ідэя абнаўлення тэксту — была прапанова выкарыстаць для гэтай мэты верш Б.Брэхта «Гімн дзяцей», дзе гаворка ідзе пра межы ад Рэйна да Одэра, пра тое, што немцы не жадаюць быць пад нейчай уладай, але не мараць і панаваць над іншымі, толькі імкнуцца быць добрымі суседзямі.

Дарэчы, Агульнаеўрапейскі дом, які актыўна будуе Стары Свет, акрамя ЭКЮ, Еўрапарламента, уніфікаванага права і г.д., мае ўжо і агульны гімн — «Оду да радасці» Ф.Шылера з музыкай Л.Бетховена (фрагмент фіналу IX сімфоніі).

**По матэрыялах замежнага друку.**

**P.S.** А ў нас тым часам конкурс на стварэнне новага, адпаведнага высокаму статусу Рэспублікі Беларусь гімна працягваецца.

Гэта, вядома, нармальна, бо стварыць дзяржаўны Сімвал у спешцы немагчыма, а спыніцца на нечым пэўным са спадчыннага матэрыялу і задаволіць густы і патрабаванні калі не ўсіх, дык большасці — немагчыма ўдвая.

Але, так бы мовіць, ад разумення гэтага лягчэй не становіцца.

І калі Шушкевіч з Клінтанам стаялі на лётным полі аэрапорта «Мінск-2», а над імі плыла музыка гімна БССР, у галаве мімаволі ўзнікала «...з братняю Руссю...», а разам з гэтымі словамі нараджалася і нейкае несур'ёзнае здзіўленне: «А дзе ж Ельцын з братняй Руссю падзеўся?!»

Сіратліва, словам, без гімна свайго. Неяк няўтульна нават. Куды ж там «руку да сэрца» ці «слязу на п'едэстале»?!

І можа, менавіта таму так моцна і захапляюча, ледзь сапраўды не да слязы, б'е «Развітанне з Радзімай» Агінскага ў фінале «Ідыліі»?..

**М.Г.**

---

**— А якія аўтары Вам найбольш адпаведныя?**

— Мы маем занадта мала літаратуры, каб можна было выбіраць. Фрэйд, на мой погляд, архаічны. Пры тым, думаю, сексуальнасць мае важны сэнс у жыцці чалавека, але не да такой жа ступені.

**— Фром?**

— Як гэта ні банальна, але, можа, я кепска ў яго ўчыталася?..

**— Берн?**

— У ягоных «гульнях» нешта ёсць, але я шукаю больш дакладныя схемы. Мяне цікавяць і Карнегі, і «Анты-Карнегі»... Наогул чалавек, ягонае жыццё — вялікая таямніца. Мяне страшэнна ўражвае прырода: жывёлы, расліны, светабудова. Усё існае. А мы жывём у свеце ўмоўных уяўленняў.

*Спектакль Рускага тэатра па п'есе Алены Паповай «Аб'ява ў вячэрняй газеце» я памятаю са студэнцтва. Чалавечае вымярэнне, рэдкае ў тыя часы, высвечвала планы драматургіі тонкім настальгічным адценнем. Яе п'есы ішлі ў Маскве і Ленінградзе, але некаторыя з іх так і не пабачылі святла рампы. «Залатая чаша» была палічана тагачаснымі ідэолагамі залішне меланхалічнай. Ды і на «Аб'яву...» было афіцыйна забаронена друкаваць рэцэнзіі. У Алены захаваўся запіс «Аб'явы...», пастаўленай М.Пінігіным, і яна спадзяецца, што калі-небудзь спектакль пройдзе па тэлебачанні. А які лёс чакае «Улюбёнцаў лёсу»? Хацелася б, каб ён быў адпаведны назве. Мы гутарым, я нешта занатоўваю, але ўжо потым, праслухаўшы дыктафонны запіс, адчую, што немагчыма перадаць на паперы непаўторную інтанацыю голасу Алены, яе смеху. Бо «ўсе мы розныя, адметныя».*

*А на развітанне гучыць: «Я жыву, душа ў мяне жыве і стварае. Вось і ўся драматургія».*

**Галіна БУЛЫКА.**

---

КАНТРАМАРКА

# ПРАЦЯГ? БУДЗЕ!

*АД САМОГА пачатку свайго існавання (снежань 1990г.) Рэспубліканскі тэатр-лабараторыя беларускай драматургіі «Вольная сцэна» выклікаў шмат пытанняў-сумненняў, як спагадлівых, так і не вельмі добразычлівых. Маўляў, што яшчэ за «школа» такая — для драматургаў? Ці не штучнае гэтае новаўтварэнне пад пэўнага рэжысёра? Ці не напаткае тэатр-лабараторыю сумны лёс дырэктыўна зацверджаных іншых тэатраў?..*

Натуральна, шэраг пытанняў да «Вольнай сцэны» застаюцца адкрытымі і сёння. Але зараз толькі лянівы (ці зласлівы?) не ўбачыць, не адчуе жывую працу тэатра пад кіраўніцтвам Валерыя Мазынскага. Спектаклі, а таксама семінары маладых драматургаў, якія тут праходзяць, абнадзейваюць і нават даюць падставы гаварыць пра магчымыя якасныя змены, перспектывы беларускай драматургіі, шырэй — беларускага тэатральнага мастацтва. У адрозненне, дарэчы, ад часопісных публікацый п'ес, дзе назіраецца прыкрая аднастайнасць драматургічнай мовы, тэм і вобразаў.

Прыкметнай падзеяй стала апошняя прэм'ера — пастаноўка п'есы Мірослава Адамчыка і Максіма Клімковіча «Vita brevis, або Нагавіцы святога Георгія». Спектакль у рэжысуры Андрэя Гузія істотна пашырае рэпертуарныя межы тэатра. У ім новыя падыходы да трактоўкі гістарычнай асобы злучаюцца з пошукамі максімальнай тэатралізацыі дзеяння, што ў пэўнай ступені характарызуе творчы напрамак «Вольнай сцэны».

«Нагавіцы святога Георгія» сталі своеасаблівым драматургічным водгукам на 500-гадовы юбілей Францыска Скарыны, рэалізацыяй сацыяльнага заказу. Для многіх п'еса маладых драматургаў прагучала як выклік. Трэба думаць, выклікам яна і была, а некаму дапякае і па сёння. «Нагавіцы святога Георгія» паводле жанру — фарс. Адно гэта ўжо ў дачыненні да выдатнай гістарычнай асобы, да скарынінскай тэмы, бо «прысвячаецца Вітэнбергскім прыгодам Францыска Скарыны ў 1525 годзе», выяўляе прынцыповую навізну ў паэтычным ладзе і структуры твора.

Аўтары ў значнай ступені захоўваюць чысціню старажытнага жанру, які прыйшоў да нас з далёкіх XIV — XVII стст. Разам з тым напаўняюць твор свежым, надзённым зместам. Фабула п'есы звязаная з «любоўнымі прыгодамі» Скарыны на ўзроўні буфанады: тут наўмысныя перабольшванні і востракамічныя сітуацыі. У сюжэце ж яны праламляюцца праз вобразы сучасных Драматурга, Рэжысёра, Акторкі і атрымліваюць метафарычнае значэнне. Фарсавае, іранічнае, парадыйнае адлюстраванне набываюць шмат якія стэрэатыпы нашых уяўленняў. У першую чаргу смяхотнай прыродай жанру «абяззбройваецца» ідэя сацыяльнага заказу, згодна з якой гістарычная асоба павінна паўставаць не інакш, як манумент. Нямала з'едлівых стрэлаў выпушчана і на адрас уласна тэатра, яго творча-камерцыйнай прыроды. У дыялогах — гістарычныя факты, якія арганічна ўплятаюцца ў іграву́ю стыхію «Нагавіцаў...».

Самі драматургі прызнаюцца, што іхняю мэтаю было напісаць твор, які нідзе не паставяць. Зайздросны запал маладосці! Ён і афарбоўвае ў «Нагавіцах...» аўтарскае ўспрыманне эпохі Адраджэння, усталёўваючы асацыятыўныя сувязі, нечаканыя мастацкія паралелі. Цудоўна разумеючы ўвесь афіцыйны расклад, аўтары свядома пайшлі яму насуперак. І выйгралі! Выйгралі на адносна кароткай дыстанцыі, што, дарэчы, сведчыць і пра пэўныя зрухі ў нашым жыцці. Ужо праз чатыры гады фарс пра Скарыну ўбачыў святло рампы, і спектакль, таксама як і п'еса, захапляе юнацкай зацятасцю выканання.

Рэжысёрская рука Гузія даволі ўпэўнена прайшлася па тэксце «Нагавіцаў...». Зробленая ім кампазіцыйная карэкціроўка абвастрае канфлікт твора. Дзеянне раскручваецца на яшчэ большых абаротах. Рэжысёр дэманструе шырокія магчымасці ў выбары вобразна-выяўленчых сродкаў. Але пры гэтым высвятляецца, што «фарс» не такі просты жанр і што з яго рэалізацыяй сучасная сцэнічная мова мае такія-сякія праблемы.

Іграву́ю мадэль відовішча арыгінальна перадае сцэнаграфія Віктара Цімафеева. Яе асноватворным знакам-сімвалам выступае ложак. Ён дзіўны паводле формы — круглы, незвычайны паводле памераў — гіганцкі. Акцёры яго ўвесь час перамяшчаюць. З нейкай хвіліны пачынае здавацца, што ложак сам рухаецца па сцэне. З ім ужо цяжка справіцца, каб паставіць на месца. Воляю пастаноўшчыкаў ён становіцца бясслоўнай дзеючай асобай, прадметным увасабленнем іранічна-парадаксальнага дзеяння.

Каларытна падаюцца і персанажы. Кожны малюецца кідкімі фарбамі. Пэўная рыса характару ўзводзіцца ў ранг мастацкай алегорыі. Увогуле жывое акцёрскае выкананне перш за ўсё і вызначае канчатковы сцэнічны поспех «Нагавіцаў...». Бадай што ўпершыню ў такой вострай форме выяўляецца акцёрская індывідуальнасць Святланы Навуменка (Пані Лютарова, яна ж Акторка) і Іны Усовіч (Пані Мелангтонава). Абедзве актрысы нібыта і пераўвасабляюцца ў сваіх гераінь, але трымаюць неабходную дыстанцыю паміж асабістым «я» і вобразам-тыпажом. Ролі спакусніц Скарыны разыгрываюцца імі як іранічная парафраза жаночай прывабнасці ва ўсе часы. Аднак у асобныя моманты адзіная лінія паводзін перапыняецца скаванасцю выканання, якая ўзнікае, натуральна, з-за боязі перайсці на звычайную фрывольнасць. Гэта ўжо пытанне жанру. Шчырае захапленне ў глядзельнай залы выклікаюць работы Аляксандра Гарцуева (Скарына і Драматург), Ігара Забары (Лютар і Рэжысёр), Артура Шуляка (Мелангтон і Слуга). Акцёры з фантазіяй абыгрываюць і аўтарскае слова, і рэжысёрскую мізансцэну, карыстаючыся выразнымі жэстамі, мімікай, інтанацыяй. Вобразы, з натхненнем створаныя Гарцуевым, Забарам, Шуляком, вельмі розныя, кожны з іх адметна індывідуальны. Адметнасць найперш раскрываецца ва ўзаемадачыненнях герояў. Акцёрскае трыо становіцца дамінуючым у развіцці сцэнічнага дзеяння.

Спектакль «Vita brevis, або Нагавіцы святога Георгія» Адамчыка і Клімковіча адразу і лёгка ўвайшоў у жывую атмасферу тэатра-лабараторыі, унёс у яе сваю, дадатковую творчую энергію. Пастаноўка Гузія валодае пэўным мастацкім патэнцыялам для самаразвіцця, і ёсць думка яго скарыстаць — працягваць працу з аўтарамі, распрацоўваць і ўдакладняць характарыстыкі, пашыраць асацыятыўную прастору твора. Такім чынам, праграмныя ўстаноўкі «Вольнай сцэны» як лабараторыі рэалізуюцца. Ажыццяўляецца галоўнае, чаму закліканы служыць гэты своеасаблівы тэатр. З яго дапамогай, на яго сцэне адкрываюцца новыя імёны драматургаў, засвойваюцца арыгінальныя стылі драматургічнага пісьма. Прычым ажыццяўляецца гэта не толькі ў лепшым сэнсе традыцыйна — шляхам яркіх, адмысловых пастановак. У практыку тэатра ўключаюцца і мерапрыемствы, так бы мовіць, нефармальныя, якія таксама садзейнічаюць працэсу ўзбагачэння духоўнай культуры.

Так, тэатральным прафесіяналам і проста аматарам тэатра надоўга запомніцца вечарына, прысвечаная адкрыццю «Вольнай сцэны» ў новым памяшканні. «Тэатральныя ўлазіны» здзівілі ўсіх прысутных сваім размахам і душэўнасцю. Застанецца ў памяці і прэзентацыя «Нагавіцаў...», дакладней — аўтараў п'есы, якія выйшлі да гледачоў пасля спектакля. У гэты ж вечар публіка знаёмілася з карцінамі маладога мастака Сержука Станіслаўчыка, выстаўленымі ў фае. Юныя музыкі выконвалі народныя мелодыі. Па відэа ішлі ўрыўкі з іншых спектакляў «Вольнай сцэны». Сустрэча адбывалася ў атмасферы сяброўства, паяднання ў імкненні да прыгожага — у жыцці і мастацтве.

**Ала САВІЦКАЯ.**

---

КРЫК ДУШЫ

# «А МО Я — НЯЎДАЧНІК?..»

... Наважыўся напісаць вам гэты ліст, бо не знаходжу адказаў на мае пытанні сярод тых, хто побач. Што рабіць? Як жыць далей? Спадзяюся, што, можа, хто-небудзь з чытачоў «Культуры», убачыўшы мой ліст, падкажа, дзе ж выйсце, дзе «свет у канцы тунэля»...

А пачыналася ўсё добра. Вучоба ў радыётэхнічным інстытуце, сябры, наша дружная, вясёлая кампанія... Студэнцкія гады праляцелі хутка і незаўважна, пакінуўшы толькі светлыя ўспаміны аб бесклапотных, як зараз здаецца, днях.

Але праблемы ўзніклі ўжо пры размеркаванні, калі высветлілася, што размеркавання, уласна кажучы, не будзе. Дзяржаўныя прадпрыемствы ды арганізацыі адмаўляюцца ад маладых спецыялістаў, бо ўсюды — скарачэнне штатаў, многія прадпрыемствы сталі банкрутамі ці стаяць на гэтай мяжы. Не буду працягваць, бо гэтыя «ісціны» ўсім зараз вядомыя і сталіся ўжо паўсядзённым жыццём. Пасля заканчэння інстытута і шумнага выпускнога балю паўстала дылема: вярнуцца ў вёску да бацькоў, што жывуць у Віцебскай вобласці, ці застацца ў сталіцы на свой страх і рызыку. Нядоўга падумаўшы, вырашыў усё ж застацца, бо працы для інжынера-канструктара электронна-вылічальнай апаратуры ў вёсцы ўсё роўна не прадбачылася. А тут... Спадзяваўся толькі на сваю «шчаслівую зорку».

Але хутка пачаліся «блуканні па пакутах» у пошуках заробку. На ўсе мае запыты паўсюль чуў адно і тое ж: «Нічым дапамагчы не можам. Самі ледзь канцы з канцамі зводзім...» Як існаваць? Тады разам з сябрам успомнілі, як студэнтамі набывалі на рынку радыёдэталі і запчасткі і збіралі ў студэнцкім інтэрнаце тэлевізары. Потым зноў ехалі на рынак. Паспрабавалі — прадалі адзін «кубік», другі, трэці... Ужо думалі аб тым, каб набыць ліцэнзію прыватных прадпрымальнікаў і займацца «бізнесам» афіцыйна, тым больш што нашая «прадукцыя» ішла толькі за «зялёныя». І мы вырашылі пашырыць справу: пазычылі дастаткова вялікія грошы (долары, вядома), каб закупіць вялікую партыю дэталяў. Але нешта не разлічылі, мабыць...

...Трое мажных хлопцаў ужо чакалі, калі раніцай я выходзіў з дома. Зацягнуўшы мяне ў «Шкоду», што стаяла непадалёк, і прыставіўшы рэвальвер да галавы, яны запатрабавалі грошы. Грошы ці жыццё... Добра вядомая альтэрнатыва, якая існуе ў наш час, на жаль, не толькі ў прыгодніцкіх раманах. Мне стала зразумела, што змагацца з трыма рэкеціpамі не мае сэнсу: могуць не толькі абрабаваць, а і ў бальніцу трапіш — за «гонар». І я аддаў грошы. Сам аддаў.

... На тым і скончылася мая «кар'ера бізнесмена». Зараз я — зноў без работы, і нават не ведаю, як і за кошт чаго вярнуць сябрам пазыку. А вяртаць трэба, бо нікога не цікавіць, якім чынам я страціў грошы. Вось такія справы...

Што рабіць? Ці магчыма наогул штонебудзь зрабіць тут, ва ўмовах панавання беззаконня, калі толькі «сувязі» ратуюць прыватныя фірмы ды кампаніі ад банкруцтва ды рэкету. А як жыць тым, у каго няма «сувязяў»? Як выжыць?

А мо я — проста няўдачнік? Ёсць жа, напэўна, людзі, што з поспехам займаюцца «сваёй» справай, маюць магчымасць не толькі аплочваць велізарныя дзяржаўныя падаткі, але і ў кішэню сабе нешта класці. І не баяцца яны, мабыць, «мажных хлопцаў»...

**P.S.** Калі вырашыце надрукаваць гэты ліст, калі ласка, не называйце маё прозвішча.

**У.Г.**

г.Мінск.

# Вялікдзень

*Ідэя стварэння Лабараторыі Царкоўнай гісторыі пры Беларускім Праваслаўным Брацтве Трох Віленскіх Мучанікаў узнікла напярэдадні святкавання 1000-годдзя Праваслаўнай Царквы на Беларусі, улетку 1992г.*

*Першым, хто натхніў тады невялікае кола навукоўцаў больш дакладна і прафесійна даследаваць царкоўна-гістарычную спадчыну Беларусі, быў знакаміты навуковец-славяназнаўца з Масквы Юрый Лабынцаў. Плённыя ідэі не знікаюць.*

*Год з невялікім спатрэбіўся, каб склалася кола людзей-аднадумцаў, гатовых самаахвярна працаваць на Царкву і Бацькаўшчыну. Вызначаліся накірункі даследаванняў Лабараторыі, абрана кіраўніцтва, прыдбалі камп'ютэрную тэхніку для фармавання архіва царкоўнай гісторыі Беларусі, рыхтуюцца да друку выданні...*

*Сёння для шаноўнай газеты беларускай інтэлігенцыі прапануем матэрыял з лабараторнай тэчкі да свята Вялікадня.*

*Мікола МАТРУНЧЫК.*

Вось наступіў апошні тыдзень Вялікага посту. Пачынаецца падрыхтоўка да светлага свята. Хто з сялян не мог ці не паспеў быць на споведзі ці прычасціцца ў першыя тыдні Вялікага посту, той спяшаецца здзейсніць гэты хрысціянскі абрад на гэтым тыдні. Старыя звычайна выконваюць яго ў Вялікую суботу, таму што не абыходзіцца без таго, каб не пажурыць каго-небудзь з сям'і за што-небудзь у гэтыя дні і такім чынам не зграшыць. Дзяўчаты ў Вялікую пятніцу ўстаюць раненька і мыюцца халоднай вадой: «гэта, як той казаў, каб быць белаю ўлетку» і «каб загара не прыставала». Увесь гэты тыдзень прыгатаўляюцца пячэнні, саленні, варэнні ды іншыя стравы, прымеркаваныя на ўсе тры першыя дні, бо варыць святочнымі днямі грэшна. У Вялікую суботу пачынаецца ўборка хаты. Вымываюцца і вышароўваюцца вехцем сцены, лавы, сталы; вымываецца падлога, выскрабаецца падпечак, дзе звычайна зімуюць куры і які чысціцца два разы на год: перад Калядамі і перад Вялікаднем.

Нарэшце хата прыбрана, на абразы павешаны чыстыя намёткі, на стол пастаўлены яйкі, пафарбаваныя шалупіннем цыбулі, розныя стравы: тут ёсць і «кеінка», і «кіндзюк», тут і пірагі, і каўбасы, што засталіся ад Каляд і для захавання прасоленыя «як чэмер», па выразе сялян, тут і «вэмбрух», і іншая ежа... Пакуль усё гэта гатавалася, выстаўлялася, наступіў і вечар; тады вымаюцца з печы чыгуны з «лугам», наліваюць яго ў ночвы і пачынаюць абмыванне «плоці грахоўнае». Затым члены сям'і пачынаюць прыбірацца. Вымаюць з куфраў усё тое, што прызначана толькі для святаў, і моладзь збіраецца ў царкву, а старыя застаюцца дома, або, калі даволі моцныя, таксама выпраўляюцца ў царкву на ўсяночную. Пры гэтым бяруць з сабой хлеб, яйкі, сыр і мяса.

Вось, нарэшце, скончылася літургія, бацюшка пайшоў свянціць прынесенае і прывезенае для пасвянцання. Перад ім ідзе царкоўны стараста з вялізнай лубкай і бярэ ад кожнага па яйку, а ў каго больш прывезена і прынесена — і па пірагу... Нарэшце, усё ўладзілася, закончылася, кожны, нічога не пакаштаваўшы, спяшаецца дамоў, у сваю сямейку разгавецца, каб было, прынамсі, як у добрых людзей. Разгавеліся, наеліся, а многія аб'еліся і здорава выпілі. Старэйшыя леглі спаць, а моладзь — «ведама, маладосць, буйнасць» — выходзіць на двор; калі добры дзень і суха, то качаюць яйкі, «б'юцца ў яйкі, прычым не адразу, а перш-наперш разоў дзесяць пакаштуюць, заменяць і прысвояцца». Тут жа бываюць і дзяўчаты, якія частуюць хлопцаў, і наадварот, гэта значыць хлопцы дзяўчатак — арэхамі, гарбузікамі, сушанымі грушамі, яблыкамі і г.д.

Настаў вечар першага дня святога Вялікадня... Чуцен пад вокнамі трохкратны выгук: «Хрыстос васкрэс!». Гэта прыйшлі «кукольнікі». Іх чалавек пяць; між імі дзве ці адна дзяўчына... Затым усе хорам спяваюць:

*Да вынесь, вынесь,*
*Пане гаспадару,*
*Хрыстос васкрэс на ўвесь свет!*
*Карабец яек да й не лічаных.*
*Мы ж тыя яйца самі пералічым,*
*Самі пералічым, пана павялічым.*

Звычайна гаспадар або гаспадыня ці, нарэшце, які-небудзь член сям'і выносіць ім каўбас або чаго-небудзь з велікоднага. За гэта кукольнікі спяваюць удзячную песню таму, хто вынес. Падумаеш, што, атрымаўшы сваё, яны пойдуць. Ажно не! Ім добра вядома, што ў гаспадара ёсць «малада Стэфачка або малады Адамко», вось яны і пачынаюць велічаць іх і выпрошваць ізноў. Часта гэтыя кукольнікі ходзяць з музыкаю, гэта значыць з імі ходзяць вясковыя скрыпач і хлопец з бубнам.

Сярод песень асабліва цікавая наступная, якая сваім зместам складае царкоўна-сельскагаспадарчы каляндар:

*Ішлі, прыйшлі валачобнікі,*
*Іграючы, спяваючы,*
*Добрага пана шукаючы.*
*— Добры вечар, пане гаспадару!*
*Чы спіш, чы ляжыш, пане гаспадару?*
*Калі ж да спіш — Бог з табою,*
*Калі ж не спіш — ходзь за мною.*
*Адчыні вакно, паглядзі на двор.*
*На тваім дварэ стаіць шацёр*
*Навюсенькі, бялюсенькі,*
*А ў тым шатрэ — залатое крэсла.*
*На том крэсле сам Бог сядзіць,*
*Перад Богам усе святыя*
*Шыкуюцца, рахуюцца:*
*Катораму святу наперад пайсці.*
*Святыя Сакі наперад пайшлі,*
*Святы Аляксей сохі чэшаць,*
*Святое Благавешчанне заворваець,*
*Святы Вербіч вярбу пасвянцаець,*
*Чысты чацвер ячмень засяваець,*
*Святое Вялічка з красным яічкам.*
*Першы дзень пірагі маюць,*
*А сярэдні дзень пагуляюць,*
*А паследні дзень выпраўляюць.*
*Радаўніца статак запасываець,*
*Святы Юрай, Божы пасол,*
*Да Бога пайшоў,*
*Да ўзяў ключы залатыя,*
*Адамкнуў зямлю сырусенькую,*
*Пусціў расу цяплюсенькую*
*На белы свет і на ўвесь свет...*
*Святы Барыс бабы сеець,*
*Святы Мікола па межах ходзіць,*
*Жыта родзіць,*
*Урасіўся, умачыўся,*
*Пад залаты пояс падапхнуўся.*
*Святы Ушэсцвенік — жыта выплываець,*
*Святая Сёмуха гнаі возіць*
*І Бога Просіць.*
*Святы Дзевятнік жыта раўнуець,*
*Святая Дзесятуха жыта красуець,*
*Святы Іван пчолы садзіць*
*Пад пералазам,*
*Па шэсцера разам.*
*Святы Пётра граблі робіць,*
*Святы Паўлюк сена грабіць,*
*Святы Кузьма жыта спеліць,*
*Святы Дзям'ян сярпы робіць,*
*Святы Барыс снапы зносіць,*
*Святая Ганна дамоў возіць,*
*Святы Спас жыта пасвянцаець,*
*Святая Прачыстая папары мяшаець*
*І жыта засяваець,*
*А Другая Прачыстая ёй памагаець.*
*Святое Узвіжанне з поля збіраець,*
*Святы Міхайла з халодным ветрам,*
*Святы Пакроў зямлю пакрыў —*
*Зямлю лістом, а воду лёдам,*
*Святы Юрай грудай гвоздзіць,*
*Святы Мікола снегам мосціць.*
*Прыйшлі Калядкі — гаспадарам парадкі.*
*Святая Васілля дзяжу мясіла,*
*Пірагі пякла, і рагатыя, і багатыя.*
*Святое Вадохрышча ваду пасвянцаець,*
*Людзей пакрапляець.*
*Святыя Грамніцы свечкі пасвянцаюць.*
*Прыйшлі Саракі да другіх Саракоў:*
*Дай Божа гаспадарам здароўя,*
*Дай Божа, каб жыта радзіла*
*На ніве капамі, а ў гумне скірдамі,*
*На таку — умалотна, а ў грудзе — спорам,*
*А ў млыне — намолам, а ў дзяжы — падходам,*
*А ў печы — ростам, на стале — сыццём!*

З другога дня Вялікадня сяляне наведваюць адзін аднаго па чарзе, ад суседа да суседа, у кампаніі з другімі, што працягваецца да самай Велікоднай суботы, гэта значыць цэлы тыдзень. У гэты апошні дзень селянін наступае ў сваёй абрадавай форме так, як і ў першы дзень свята Вялікадня. Разгаўляюцца раніцай свянцонымі яйкамі, прычым прымаўляюць: «Яйкам адгавеліся, яйкам і закончым».

Закончыўся Велікодны тыдзень, і сяляне чакаюць Радаўніцы, якая наступае ўслед за Вялікаднем, каб на магілках са сваімі бацькамі і дзядамі пахрыстосавацца...

*(Паводле этнаграфічных апісанняў М.В.Доўнар-Запольскага і П.П.Дзямідовіча, зробленых у Мінскай губерні напрыканцы XIX стагоддзя.)*



# БЫЛЬ ЧОРНАГА ГУМАРУ

КАЖУЦЬ, гумар бывае чорны і не-чорны... У поўнай згодзе з гэткай класіфікацыяй існуюць (існавалі?) анекдоты нядаўніх часоў.

Па анекдотах мы вывучалі гісторыю. Гады з тры таму нават выйшла кніжка, у якой шэдэўры фальклору XX стагоддзя былі раскласіфікаваныя амаль як у падручніку па гісторыі КПСС: ленінізм, сталінізм, брэжневізм. З анекдотаў жа вылаўліваліся геаграфічныя веды: «Аднойчы на незаселеным востраве...». Анекдоты з ранняга дзяцінства знаёмілі нас з этнаграфічнымі асаблівасцямі народаў свету. Памятаеце шматлікія аповяды пра расейца, немца ды паляка ці пра француза, ангельца ды... беларуса?

Анекдоты, безумоўна, незарэгістраваныя ў шасцітомным міжнародным паказальніку С.Томпсана, з'яўляліся адметнай часткай савецкага, пераважна гарадскога фальклору, стварэнне якога не перапынялася ні на адзін дзень. Навакольная «дваістая», я б вызначыла, постмадэрнісцкая сітуацыя вымагала крышталізацыі побытавай культуры ў асаблівай форме.

Сем год прайшло, сем вод сышло... прабачце, ужо восем... У адсутнасці якой-кольвек аб'ектыўнай інфармацыі, на досвітку смешнапамятнай перабудовы, на чорную бяду савецкі чалавек адгукнуўся чорным гумарам. І чулася за кілішкам быццам бы цудадзейнага чырвонага віна ("Кагор" — гэта ж прычасце!"): «Цягнік «Кіеў-Мінск» прыбывае да трэцяй платформы. Радыяцыя вагонаў з хваста поезда.»

І лозунгі будаўнікоў камунізму, якія тады, як сёння —рэклама (раўнацэнная замена!), успрымаліся адразу і цалкам, набывалі новае гучанне: «Мірны атам — у кожную хату!»

На манер тыповых усходнеславянскіх казак пра жывёлаў ствараліся вось гэткія:

« — Калабок, Калабок, я цябе з'ем!

— Не еш мяне, Ліска, бо я не калабок, а вожык з Чарнобыля!»

Наогул, тэма страты валасоў, як і тэма мутацый, дамінавалі.

«Плывуць дзед з унучкай па рацэ. З правага боку — разбуранае паселішча.

— Што гэта, дзядуля? — пытаецца дзяўчынка.

— Тут быў горад Кіеў, — кажа стары і гладзіць унучку па галоўцы.

Плывуць далей, з левага боку — зноў руіны.

— А што гэта? — пытаецца малая.

— А тут быў горад Гомель, — адказвае дзядуля і гладзіць унучку па другой галоўцы.»

Ці вось на тую ж тэму, але з нядаўнім яскравым эпітэтам —"палітычны": «Украіна звярнулася ў ААН з просьбай зацвердзіць свае новыя сцяг і герб.

— Што ўяўляе сабою сцяг?

— Трыкалор. Бела-чорна-чырвоны. Белы — колер нашай крыві, чорны — колер нашай надзеі, а чырвоны — колер «Кабернэ».

— А герб?

— Вядома ж — двухгаловы хахол!»

Тады яшчэ збіраліся з'езды адзінай партыі, ладзіліся канферэнцыі, кіпелі страсці па пяцігодках — і выкіпалі ў «грамаддзё» дзяржаўных планаў.

Аўтарка гэтых радкоў, у чарговы раз не купіўшы калготкі для сваёй дачушкі, неяк, гуляючы з каляскай, зрыфмавала радкі, да сёння невядомыя шырокай публіцы:

*А з наступнай пяцігодкі*
*Будуць новыя калготкі.*
*Той, хто мае тры нагі,*
*Атрымае без чаргі.*

Я не прэтэндую на ролю стваральніцы анекдотаў, але творчы вопыт чорнага гумару, як бачыце, узнікае нечакана. Таму мне яскрава ўяўляецца побытавая сітуацыя, у якой нехта прыдумаў такую показку: «Прадае жанчына на кірмашы яблыкі. На прылаўку шыльдачка: «Яблыкі з Чарнобыля». Нехта пытаецца: «Што, бабка, і бяруць?» — «Бяруць, мілы, бяруць... Хто для цешчы, хто для зяцька...»

Цешча і зяць, героі шматлікіх «камунальных» анекдотаў, не маглі быць абмінутыя ўвагай!

Бахцінская карнавальная культура праявілася і ў самыя чорныя дні. Зрэшты, у поўнай адпаведнасці з філосафам.

Кажуць, чалавецтва развітваецца са сваім мінулым смеючыся. Выдадзеныя пад адной вокладкай савецкія анекдоты зрабілі смехавую стыхію легальнай. Наогул, хуткі час, неверагодныя перамены пазбавілі нас неабходнасці мець «патаемны фальклор».

Вы прыкмячалі, што анекдоты ў апошнія гады сталі расказваць неяк па-іншаму, без перчыку «забароненага плада». Магчыма, гэткая змена — адзнака шляху да нармальнага рацыяналізаванага грамадства, у якое, магчыма, ператвараецца постсацыялістычнае.

Чалавецтва развітваецца з былым... Але Чарнобыль — гэта і сучаснае, і наступнае. З наступным — таксама развітацца?.. На гэтае пытанне не дае адказаў нават чорны гумар. І хаця даўно не чуваць «радыяцыйных» анекдотаў, аўтэнтычныя творцы нечаканых падтэкстаў нікуды не зніклі. Нядаўна расчыняю нейкую газету — і на старонцы прыватных аб'яваў чытаю:

«Мужчына без шкодных звычак (30/170) пазнаёміцца з жанчынай, згоднай на пераезд. Жыву ў прыватным доме, маю сад, гарод, З вакна — цудоўны від на раку Прыпяць. (г.Брагін)».

Чым не чорны гумар?

**Галіна БУЛЫКА.**


КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ШАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара —
Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Мастацкія рэдактары — Наталля ОВАД, Барыс ШУЛЬМАН
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ
Набор і вёрстка кампутарнага цэнтра газеты «Культура»

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул.ЧЫЧЭРЫНА, 1.

Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

©
Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 7000
Замова 50
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.


